*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 34(419) 25 ЖНІЎНЯ 1999 г.

## ЗВАРОТ ДА ЮРЫСТАЎ І СУДДЗЯЎ БЕЛАРУСІ

**Паважаныя прадстаўнікі юрыдычных і судовых установ Рэспублікі Беларусь!**

Сакратарыят ТБМ вельмі заклапочаны поўным выцясненнем дзяржаўнай беларускай мовы з судовай і юрыдычнай практыкі. Зараз усё справаводства ў беларускіх судах і іншых юрыдычных установах вядзецца па-руску. Больш таго, усё часцей суддзі патрабуюць, каб удзельнікі судовага працэсу, носьбіты жывой беларускай мовы, якая з'яўляецца дзяржаўнай, размаўлялі з імі толькі па-руску. І гэта ў той час, калі, ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, кожны дзяржаўны службовец у аднолькавай ступені абавязаны валодаць дзвюма дзяржаўнымі мовамі.

Зараз, у нялёгкі для Беларусі час, калі ў нашым грамадстве, асабліва пасля 20 ліпеня 1999 г., нарастае сацыяльная і палітычная напружанасць, мы заклікаем Вас паважліва ставіцца да беларускай мовы як дзяржаўнай, актыўна выкарыстоўваць яе ў перапісцы, справаводстве, вядзенні судовых прпацэсаў.

Лічым неабходным нагадаць, што беларуская мова ў ХУ-ХУІІ ст.ст. была адной з самых дасканалых, у юрыдычным сэнсе, моваў Еўропы і разам з лацінскай шырока выкарыстоўвалася ў юрыдычнай практыцы велізарнай шматнацыянальнай краіны, у Вялікім Княстве Літоўскім, Жамойцкім і Рускім. Адзін з лепшых юрыдычных дакументаў сярэднявечнай Еўропы – Статут ВКЛ – быў напісаны па-беларуску.

Дык чаму Вы, нашчадкі Францішка Скарыны, Льва Сапегі і Францішка Багушэвіча павінны яе цурацца? Родная мова – як маці, яна даецца чалавеку ад Бога і павінна быць з ім да самага скону.

Мы спадзяемся на Ваша сумленне і розум.

12 жніўня 1999 г. *Сакратарыят ТБМ.*

## Шануюць мову

27 жніўня ў Малдове аб'яўлены выхадны. Малдаване ў гэты дзень адзначаюць нацыянальнае свята "Limba noastra" ("Наша мова"). Сакратарыят ТБМ і рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць братні малдаўскі народ з гэтым вялікім святам і спадзяюцца, што калі-небудзь і беларусы будуць так жа шанаваць сваю мову.

## Падпіска на "Наша слова" працягваецца

Гарадзенская абласная арганізацыя ТБМ падпісала на чатыры апошніх месяцы гэтага года на "Наша слова" ўсе сярэднія школы г. Горадні, а іх 36, і арганізацыю "ВА Гроднаэнерга". У сваю чаргу, Сакратарыят ТБМ выпісаў нашу газету ў 9 сельскіх бібліятэк Мастоўскага раёна Гарадзенскай вобласці, а таксама ў 62 школы, бібліятэкі і іншыя ўстановы Слоніма, Стоўбцаў і Стаўпецкага раёна, Жодзіна, Чашнікаў, Шаркаўшчызны, Шуміліна, Ганцавіч, Нароўлі, Хойнікаў, Іўя, Свіслачы, Фаніпаля. Сакратарыят ТБМ выказвае шчырую падзяку тым беларускім прадпрымальнікам, якія ахвяравалі грошы на гэтую акцыю.

*Сакратарыят ТБМ.*

## ГОМЕЛЬСКАМУ УНІВЕРСІТЭТУ - 70

Свежы струмень унясе новы навучальны год у залы і аўдыторыі Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Францішка Скарыны, які ў верасні адзначыць 70-годдзе. Каля тысячы абітурыентаў увальюцца ў сям'ю яго студэнтаў, звонкія маладыя галасы напоўняць новы будынак фізічнага факультэта.

На здымку: Ідуць экзамены. На пярэднім плане – абітурыентка Людміла Мілішчанка. На жаль рэдакцыя не мае звестак ці паступіла Людміла.

Фота Сяргея Халадзіліна, БЕЛТА.



## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментар Язэпа Палубяткі*

Але нядоўгім было пачуццё вольнасці. Не паспелі мы прайсці 4-5 кварталаў па праспекце Скарыны, як за намі пачалося паляванне. Магчыма, падставай з'явілася стужка беларускага ўзору на галаве ці карыстанне беларускай мовай? Бо калі беларус гаворыць на роднай (дзяржаўнай) мове – то ў сучаснай Беларусі гэта часцяком ледзь не крымінал.

**В. Барболік**
**"Народная воля" 30.07.99г.**

*У якасці прэлюдыі да інтэграцыі ён (прэзідэнт – рэд.) прыбраў з вучэбнага плану такія прадметы, як беларуская мова і гісторыя… .*

***"Славянская дэзінтэграцыя"***
***"Навіны" 4.08.99г.***

Чаму ж я, сын патомных беларусаў, пачынаў пісаць не на роднай мове? Па-першае, у сямігодцы не шанцавала на добрых настаўнікаў роднай мовы. Дырэктара клапаціла, як выкладаецца руская мова. Гэта ж болей хвалявала і раённае кіраўніцтва.

**Леанід Левановіч**
**ЛіМ 6.08.1999г.**

*Вы на маіх вачах тварылі беззаконне, а я верыў, што Вы не маеце да гэтага адносінаў. Вы таптаці сімвалы, святыя свядомым жыхарам Беларусі, мову, на якой гаварылі мае бацькі…*

***Адкрыты ліст гр. А.Лукашэнку ад Міхаіла Чыгіра***
***"Народная воля" 12.08.1999г.***

Праўда, у трамваі, тралейбусе альбо нават каля прылаўка ў магазіне па-беларуску не загаворыш.

***Вячаслаў Адамчык***
***ЛіМ 13.08.99г.***

*Куды ісці – доўгіх роздумаў не было. Хацелася адвесці душу, паразмаўляць з кім-небудзь па-беларуску. Я вельмі люблю сваю мову, але дзе яе цяпер пачуеш, як ні на якім мітынгу ці пікеце? А якраз у гэты дзень ладзіўся пікет за беларускую мову на рагу Нямігі і Гарадскога вала. Туды і накіравалася. І сапраўды нагаварылася ўдосталь з незнаёмымі, але блізкімі па духу людзьмі – прыхільнікамі Беларушчыны.*

***"База, вязём груз!"***
***"Народная воля" 11.08.99г.***

Ф. СП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 1998 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 120000 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

***Паважаныя сябры ТБМ і чытачы газеты "Наша слова"!***

***У газеце "Звязда" 24 ліпеня 1999 голда змешчана вялікае інтэрвію з кіраўніком выдавецтва "Мастацкая літаратура" Георгіем Марчуком, у якім у наш бок зроблены беспадстаўныя, на наш погляд, крытычныя заўвагі і абвінавачванні.***

***У сувязі з гэтым, Сакратарыят ТБМ звярнуўся да намесніка старшыні Людмілы Дзіцэвіч з просьбай даслаць у газету "Звязда" нашу думку па гэтаму пытанню, што і было зроблена. Мы не ведаем, ці надрукуе "Звязда" наш адказ, таму прапануем гэты тэкст сваім чытачам і падпісчыкам да ведама і роздуму. На жаль, палітычныя закіды ў наш бок працягваюцца і гэта прымушае нас быць вельмі пільнымі.***

***Старшыня ТБМ Алег Трусаў.***

# Каму незразумелая дзейнасць ТБМ?

*"Мне незразумелая дзейнасць Таварыства беларускай мовы, ... Я не ведаю выпадкаў, каб яны прэміравалі каго-небудзь ці правялі якісьці семінар, запрасіўшы ў Мінск людзей з глыбінкі, прадэманстраваўшы ім, што ў сталіцы не знік інтарэс да правіцы".*

*Георгій Марчук*
*"Звязда" № 133*
*24 ліпеня 1999*г.

**Што звычайна робіць чалавек, калі нічога не разумее ці не ведае. Тым больш, калі ён мае досвед працы з друкаваным словам. Ну, вядома, звяртаецца да першакрыніц. Мы маем справу найчасцей са сведкамі-скрыптумамі, і вельмі рэдка – з жывымі сведчаннямі. Як на маю думку, Таварыства беларускай мовы – жывое яшчэ пакуль, дыхае і працуе. Хоць і хацелася некаму спляжыць і зруйнаваць вядомую арганізацыю, задушыць непамернай арэнднай платай, зганьбіць судовай справай, пусціць у свет з жабрацкай торбай, выгнаўшы з двара, раскідаўшы гняздо. Але не ўдалося. І сядзібу не аддалі на здзек "новым русским", і газета "Наша слова" пакрысе ачуньвае ад дзяржаўнай "увагі". Так што ёсць у каго спытацца, чым і як жыве Таварыства, колькі людзей прэміравалі, чаму "больш займаюцца палітыкай, чым цэментуюць падмурак нацыянальнай культуры". І прыходзяць, і пытаюцца. Акадэмікі і вучні, пісьменнікі і рабочыя. Яны ж потым становяцца нашымі сябрамі, працуюць па абраных кірунках.**

**Мяне зацікавіла, ці меў калі-небудзь спадар Марчук хоць якое дачыненне да ТБМ на самой справе, бо ўскосна як пісьменнік, дырэктар выдавецтва павінен быў бы лічыцца нашым прыхільнікам. Але і Ніл Гілевіч, і Генадзь Бураўкін, а тым больш Алег Трусаў не маглі адшукаць у памяці хоць хвіліну зацікаўленасці Георгія Марчука пакручастым лёсам арганізацыі, што бароніць родную мову, якая, між іншым, з'яўляецца інструментам працы шаноўнага апанента. І з'явілася думка, што сябра Саюза пісьменнікаў калі і ведае шматпакутны куточак па вуліцы Румянцава, то, відаць, парогі не мелі шчасця быць абіванымі такімі ганаровымі нагамі, як і лідская газета "Наша слова" не ўдастоілася ўвагі дырэктара сталічнага выдавецтва. А шкада. Калі б такое, хай сабе і прыніжальнае для высокага рангу дзяржаўнага службоўца з'явішча адбылося б, то не прыйшлося б сур'ёзнаму паважанаму чалавеку выкарыстоўваць струхнелыя савецкія дыскусійныя формы тыпу "сам я Солженицина не читал, но я его осуждаю". "Прачытаўшы" з першых рук пра Таварыства, можна было б адшукаць і цікавую для шаноўнага спадара інфармацыю пра паездкі сяброў Рэспубліканскай Рады ТБМ у беларускія рэгіёны, якіх толькі за апошні 1998 год адбылося больш за 20. У выніку гэтых вандровак перарэгістраваныя або створаныя ўпершыню арганізацыі ТБМ у Віцебскай вобласці, Лідзе, Верхнядзвінску, Глыбокім, Карэлічах, Гарадку, Бабруйску, Касцюковічах, Асіповічах, Уздзе, Бярозе, Клецку і многіх іншых месцах. Мы просім прабачэння ў аўтара артыкула, што не скарысталіся яго парадай запрасіць "у Мінск людзей з глыбінкі...", а самі ехалі да іх. Ведаеце, паразважалі, што, як Вы пішаце, "да вёскі кніга амаль не даходзіць", а некаму ж трэба яе данесці (у выдавецтве "Мастацкая літаратура", як мы разумеем, такіх функцыянальных абавязкаў не прадугледжана), вось і вырашылі самі вазіць на грамадскіх пачатках. Так вось 3 тысячы асобнікаў кніг і раздалі бязвыплатна ў рамках праграмы падтрымкі беларускамоўных класаў, школ.**

**З вялікай надзеяй на прачытанне перадаём інфармацыю пра прэміраванне "каго-небудзь". Драбяза, вядома, але каля ста пераможцаў двух конкурсаў "Беларусь маімі вачыма", "Беларусь – наш дом у XXI стагоддзі" і 142 удзельнікі конкурсу "Блізкая гісторыя: паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945-1965г.г." атрымалі прызы: кампутары, фотаапараты, дыктафоны, касеты, кнігі, падпіску на газеты. Пераможцы апошняга конкурсу наведалі Нямеччыну. Гэтая інфармацыя не вызначаецца таемнасцю: пра яе можна прачытаць у кнізе "Зборнік матэрыялаў і конкурсных прац. Паўсядзённае жыццё ў Беларусі...", якая выдадзена ў 1999 г. у Менску Архівам найноўшай гісторыі, сумесна з якім ТБМ ладзіла конкурс.**

**Хочацца шчыра паспачуваць паважанаму спадару Марчуку, які можа бачыць у Польшчы чаргу да пісьменніка па аўтограф, а на ўласнай зямлі не мае часу гэта заўважыць. Аўтар слоў: "Мы павінны наталіць духоўную прагу грамадства" мог бы быць сведкам працы калегаў (па наталенні, вядома) з ТБМ у музеі Я.Купалы, дзе за апошнія 2 гады праведзена больш за 30 паэтычных сустрэч з калегамі апанента (па пяры, вядома): Н.Гілевічам, В.Зуёнкам, М.Аўрамчыкам, С. Законнікавым, А.Вярцінскім, М. Мятліцкім, А.Хатэнкай, А. Лойкам, А.Пісьмянковым і іншымі. Не памылюся, калі скажу, што спадару не хапіла часу заўважыць чаргу па аўтограф пісьменніка ў час Лірычнай пятніцы ў Тэхналагічным універсітэце, не ведае сп. Марчук і рупліўцаў ТБМ Пятра Русава, Лідзію Соўпель і іншых, якія ў Менску "наталяюць прагу грамадства" ведаюць новыя імёны ў літаратуры, а колькі такіх тэбэзмаўцаў у рэгіёнах...**

**Калі ж пісьменнік Георгій Марчук лічыць, што "пісьменнікі жывуць самі па сабе" то, можа, уласным прыкладам народжаныя гэтыя словы. Колькі гарадоў аб'ездзіла група пісьменнікаў, навукоўцаў: (Ул. Арлоў, Г.Бураўкін, Р. Барадулін, Лявон Баршчэўскі, М.Скобла, Н.Гілевіч, С. Законнікаў, С.Адамовіч і інш.), колькі людзей у глыбінцы пачулі жывое слова творцаў. Іншая справа, калі перад славутым паэтам зачыняюцца дзверы клуба ці Дома культуры, а ключ губляецца, калі беларускамоўны інтэлігент вымушаны хаваць мову, каб не трапіць у небяспечную сітуацыю пад дубінкі, калі бацькі ў роспачы шукаюць дзесяты беларускамоўны клас, калі... Кім, як не сённяшняй дзяржавай, створаная гэтая сітуацыя. Калі мова становіцца палітыкай, то аўтаматычна палітыкай вымушана займацца і Таварыства беларускай мовы, каб беларус усвядоміў каштоўнасць роднай мовы, пісьменнік – заганнасць сістэмы жыць самому па сабе, дырэктар выдавецтва – ненатуральнасць сітуацыі ў беларускай краіне, калі друк на 95% — расейскамоўны, а для выдавецтва – "усе аўтары роўныя". Ці не з гэтай славянскай "роўнасці" ўзнікла беларуская няроўнасць? Ці не пара беларусу, адкінуўшы мястэчковую рахманасць, паконччыць з практыкай гаварыць на мове начальства, бо ёсць небяспека ў трэцім тысячагоддзі загаварыць на "трасянцы". І ці не пара выставіць рахункі дзяржаве, якая перакінула клопаты пра дзяржаўную мову на плечы грамадскага Таварыства., выдзяляючы "столькі грошай, колькі можна" славянскім базарам ды расейскім кінастудыям. Можа, яно выйшла б справядлівей, чым папікнуць земляка, з якім разам працуеш на адной ніве і не хочаш заўважыць той працы. Калі ж шаноўны апанент некалі захоча, то ласкава прапануем адчыніць дзверы ў сядзібу Таварыства беларускай мовы, што на Румянцава, 13, і далучыцца да грамадскай асветніцкай працы, якая, як вядома, дужа няўдзячная, бо вынікі мае і заўважаюцца толькі цераз працяглы час.**

**Мяркуем, што спадар выбера сабе працу па душы: наведае нядзельны кніжны клуб або літаратурны семінар Славаміра Адамовіча, стане ўдзельнікам кінаклуба і абавязкова набудзе беларускамоўныя відэа- і аўдыёкасеты, а разам з гэтым інфармацыю з першых рук.**

***Намеснік***
***старшыні ТБМ***
***Людміла Дзіцэвіч.***

**Павел Сцяцко,**

*доктар філалагічныхнавук, прафесар, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

***Супраціўленне і супраціў.*** Акадэмічныя слоўнікі падаюць толькі слова ***супраціўленне*** (утварэнне з суфіксам ***–енне*** ад ***супраціўляцца***). Але ў перыядычным друку, манаграфія 90-х гадоў актыўна выкарыстоўваецца і яго нульсуфіксаваны адэкват ***супраціў***. "Сёлета мінецца 15 гадоў з дня смерці Ларысы Геніюш. З далечыні часу, асабліва сёння, калі разгарненне беларускага нацыянальнага супраціву робіцца неабходнасцю, асоба вялікай патрыёткі і паэткі паўстае ва ўсёй велічы" (Міхась Скобла. ЛіМ. 20.02. 1998). "Рух народнага супраціву чужынцам" (Генадзь Сагановіч. Невядомая вайна – Мн.:Навука і тэхніка.1995.С.4). "Нацыянальнае адраджэнне, якое шырока разгарнулася ў канцы 80-х і ў пачатку 90-х гадоў, сустрэла моцны супраціў з боку антыбеларускіх сілаў". (ЛіМ.21.08.1998.С.4 "Зварот да суайчыннікаў, а таксама да грамадзян іншых краін, каму неабыякавы лёс беларускай мовы і культуры").

Слова ***супраціў*** – натуральнае ўтварэнне ад ***супрацівіцца (супраціў-(іцца) –супраціў)***."Беларуска-расійскіслоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча зафіксаваў: "Супраціў – напротив" (с. 305). **Іншыя беларускія слоўнікі яго не фіксуюць. Аднак гэтае слова – *супраціў* – як агульнаўжывальнае, лек-січная адзінка прадукцыйнага словаўтваральнага тыпу (нульсуфіксаванае ўтварэнне) без сумневу ўвойдзе ў літаратурны слоўнік.**

***Тэзіс і тэза.*** **Акадэмічныя слоўнікі фіксуюць толькі *тэзіс*. Аднак сучасны нацыянальны друк карыстаецца і больш кароткай яго формай – *тэза*. "Яму належыць надта сур'ёзна абгрунтаваць свае тэзы" (Беларускі гістарычны агляд. Т.4.Мн.,1977.С.209). "Камісія падрыхтавала тэзы для абвяшчання рэспублікі". (Тамсама.С.279). Слова *тэзіс* захоўвае аблічча грэцкага *thesis*, *тэза* – толькі аснову слова. Канчаткі *–is, -us, -os, -om* у пазычаных іншамоўных словах звычайна не захоўваецца ў мовепазычальніцы. Параўн.: *тэкстыль* (лац. *textilis*), *тэмп* (лац. *tempus*). *Тэлескоп* (грэц. *teleskopos*), *тэатр* (лац. *theatrum*),*тэкст* (лац. *textum*), *тытул* (лац. *titulus*), *трыбун* (лац. *tribunus*), *трон* (грэц. *thronaos*), *транзіт* (лац. *transitus*) ды пад.Слова *тэза* бытуе і ў іншых славянскіх мовах: укр. *теза*, польк. *tesa*, чэск. *teza* ,славацк. *tesa* ды інш.**

Тлумачальныя слоўнікі, улічыўшы факты маўленчай практыкі, падаюць і словы ***тэза***. Так, у 5-ым томе ТСБМ (Кн. 1. Мн., 1983. С.571) чытаем: "Тэза,-ы,ж. Спец.Тое, што і тэзіс (у 1 знач.)". Паўторна і ў "Тлумачальным слоўніку" 1996 года (с.671).

Ад слова ***тэза*** утварыліся: ***тэзаваць, тэзавацца, тэзаванне, тэзаваны***. якія бачым у слоўніку, а ад слова ***тэзіс*** толькі адно слова – ***тэзісны***. Але яго лёгка замяняе ***тэзавы*** (тэзавая форма даклада).

Як бачым, форма ***тэза*** абгрунтаваная ў беларускай мове, яна падтрымліваецца і ўсімі вытворнымі ад яе словамі.

***Паражэнне і параза.*** Слоўнікі фіксуюць толькі першае з іх, але ў сучасным друку актыўна выкарыстоўваецца і ***параза***: "Суб'ектыўная адчувальныя культурныя адрозненні паступова павялічваліся пасля скасавання ўніяцтва, паразы паўстання 1863-1864 гг. разам з узмацненнем пазіцыяў праваслаўя" (Беларускі гістарычны агляд. Т.4.Мн.,1997.С.35). "Тут пачалася самая цяжкая ў ягоным жыцці бітва, якая прынесла Радзівілу першую паразу" (Генадзь Сагановіч. Невядомая вайна. Мн., 1995. С.18). "Афіны канчаткова пацярпелі паразу" (Анры Дэні. Гісторыя эканамічнай думкі. Мн.,1996.С.11).

***Параза*** – нульсуфіксавае ўтварэнне ад ***паразіць***: ***параз-(іць)-а – параза.*** "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С. Некрашэвіча зафіксаваў: "Параза, ж. – поражение" (С.223). Украінская мова таксама мае аднаструктурнае слова (з утваральную асновай ***параз-) поразка*** (паражэнне), а чэшская і славацкая мовы ***porazka***; у польскай мове таксама бытуе суфіксавае ўтварэнне ***porazka***.

Як бачым, з усіх згаданых найбольш эканомнае слова беларускае: ***параза***. Яно – вынік надта актыўнага ў сучаснай мове нульсуфіксавага ўтварэння. Параўн.: ***сумнеў, аповед і расповед, подслух, супраціў*** ды падобныя.

***Імпрэза.*** Гэтае слова было вядомым яшчэ ў старажытнай беларускай мове з значэннем ***задума, пачынанне*** (М.Прыгодзіч, Г. Ціванова. Старабеларускі лексікон. Падручны перакладны слоўнік. Мн.,1997). Сучасныя слоўнікі яго не фіксуюць. Але ў друку яно выкарыстоўваецца. І досыць актыўна: "Сёлетні фестываль пабіў рэкорды традыцыйнай летняй імпрэзы па працягласці, бо доўжыўся 9 дзён..." "Большасць люду, як тое водзіцца, цікавілі не столькі мастацкія імпрэзы, колькі магчымасць бавіць час на "базарным прыволлі" (ЛіМ. 21.08.1998.С.10. "Згадкі пра "Славянскі базар у Віцебску"). Чарадзейныя гукі поўнілі атмасферу "шапэнаўскага салона" і мкнулі на вакольнае паветра, у сціслы садок: рыхтык падчас знаных імпрэзаў у радзінным доме кампазітара, у Жалюзавай Волі! (ЛіМ. 7.08. 1998. С.2).

Паводле тэкстаў выкарыстання слова ***імпрэза*** мае ў сучаснай маўленчай практыцы значэнні ***'мерапрыемства', 'выступленне', 'канцэрт', 'справа' (рэч), 'захад', 'мера'.***

Слова ўласцівае і польскай мове: ***impreza 'мерапрыемства, пачынанне, выступленне'.***

***Выспа і востраў.*** Слова ***выспа*** як адэкват рас. ***остров*** засведчыла "Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 3. Геаграфічныя і касмаграфічныя тэрміны і назовы нябесных цел". Яго – ***выспа*** – падае "Беларуска-расійскі слоўнік" М. Байкова і С.Некрашэвіча (Менск,1926.С.71): "выспа ж.остров". Зафіксавалі гэтае слова і многія дыялектныя слоўнікі з значэннем ***'востраў'***; а таксама ***'узгорак, узвышанае месца', 'высокі бераг ракі'***. Бытавала яно і ў старажытнай беларускай мове з значэннем ***'востраў'***. У народнай мове выступае і ў форме мужчынскага роду ***высып 'пясчаны ўзгорак', астравок; выспа'***. Гэта наводзіць на думку, што першасным значэннем слова ***выспа*** было ***'пясчаны астравок, узгорак сярод абсяжнай вады'***. Дарэчы, этымалагічна – ***'абмытая (абводненая) зямля'***; корань у слове ***востраў*** той, што і ў ***струмень*** (рас. струя). г.зн. ***'абмыты вадой'***.

**Слова бытуе і ў польскай мове *(wyspa 'востраў')*, што, відаць, і дало падставу абмежаваць у беларускай мове выкарыстанне слова *выспа*, надаўшы яму больш вузкае значэнне *('пясчаны востраў')*, а агульнамоўным зрабіць *востраў*. Аднак "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" не пацвярджае высновы РБС—523.** На с.580 (Т. 1. Мн.,1977) чытаем: **"Выспа,-ы,ж. невялікі востраў, часцей пясчаны. Сярод гэтых** лясоў сустракаюцца выспы. абкружаныя балотамі". Дарэчы, слова ***востраў***. якое падае гэты слоўнік, таксама мае аналагічныя з ***выспа*** значэнні – ***'узвышша сярод балота, грудок, выспа'*** (Тамсама.С.507).

Усё згаданае дае падставы лічыць слова ***выспа*** агульнамоўнаю лексічнаю адзінкаю, адэкватам слова ***востраў***. Параўн.: "Як звычайна ў гэты дзень ля мемарыяла на "выспе слёзаў" адбылася ўрачыстая цырымонія" (ЛіМ.20.02.1998г.).

І ніяк тут нельга пагадзіцца з "Тлумачальным слоўнікам" 1996 года, які безапеляцыйна сцвярджае (даслоўна паўтарыўшы праз дваццаць гадоў свайго папярэдніка): "Выспа,-ы,ж. Невялікі востраў, часцей пясчаны". (с.133). Дарэчы, тут бачым і штучнае: "прым. ***выспенны***", хоць натуральным ёсць ***выспавы*** (як і *язвавы*). А тым болей з 2-7 перавыданнямі РБС-53, якія нічога не змянілі параўнальна з тым, што было засведчана 40 з лішкам гадоў таму. Так, у РБС-98 (Т.1.С.373) бачым: "Остров м. Востраў, -рава м.; (песчаный) выспа, -пы. ж.".

*(Працяг у наступным нумары).*





## Самаадданае служэнне Бацькаўшчыне

**Да 125-годдзя са дня нараджэння Аляксандра Уласава**

Гісторыя Беларусі, як гісторыя кожнай краіны мае ў сваіх шэрагах шмат яркіх асобаў: таленавітых паэтаў, пісьменнікаў, грамадскіх дзеячоў, людзей апантаных, чыё імя і дзеянні ва ўсіх на слыху. Але побач з імі заўжды ёсць людзі, якія не афішуюць свайго "я", але дзеля той ці іншай ідэі працуюць шчыра, самаахвярна, як бы так мовіць, чыняць усю асноўную чарнавую працу, якой звычайна цураюцца ці не ўмеюць рабіць лідары. Бадай да людзей такога кшталту можна аднесці і Аляксандра Мікітавіча Уласава – беларускага грамадскага дзеяча, выдаўца публіцыста, мемуарыста, прыкладна так характэрызуюць яго афіцыйныя крыніцы. Але больш ганарова і шаноўна гучыць бадай што адно вызначэнне: выдавец "Нашае Нівы". Для свядомага беларуса гэта бадай што больш чым вызначэнне. Нарадзіўся Аляксандр Уласаў 16 жніўня 1874 года ў Вілейцы. Адукацыю набываў у Пінскім духоўным ды Лібаўскім рэальным вучылішчах. З 1899 па 1905 гады навучаўся ў Рыжскім палітэхнічным інстытуце. Яшчэ ў гады навучання далучаецца ў Менску да Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады і надалей звязвае свой лёс з братамі Луцкевічамі. Прымае актыўны удзел у тагачасных краёвых мерапрыемствах. Сярод іншых выступае арганізатар Беларускай сацыялістычнай Грамады ды ўваходзіць у яе кіраўнічыя органы. Царскія рэпрэсіі 1905 – 1906 гадоў змусілі яго разам з братамі Луцкевічамі перабрацца да Вільні. Абставіны часу вымушаюць змяніць форму дзейнасці. Вырашаецца пытанне выдавецкай дзейнасці і Аляксандр Уласаў становіцца выдаўцом першае беларускае газеты "Наша Ніва" і здзяйсняе гэтую працу з 1906 па 1914 гады. Акрамя таго ён яшчэ выступае як рэдактар беларускіх часопісаў "Саха" ды "Лучынка", з'яўляецца адным з арганізатараў віленскага выдавецкага таварыства "Наша хата". Аляксандр Уласаў, бадай што быў адзіным заможным чалавекам з усіх віленскіх беларускіх дзеячоў таго часу. Ён меў фальварак Мігаўка пад Радашковічамі. З гэтага фальварка мусіў жыць сам, бо другіх прыбыткаў не меў. Не гледзячы на гэта ён аплачваў кватэру для ўсяе рэдакцыі "Нашай Нівы".

Акрамя гэтага Уласаў прыняў непасрэдны ўдзел у выданні беларускіх каляндароў, "Зборнікаў "Нашай Нівы", а таксама кніг Якуба Коласа, Ядвігіна Ш., Максіма Багдановіча, Элізы Ажэшка і іншых. Як усе палітычныя ды грамадскія дзеячы меў ад уладаў непрыемнасці. У 1910 годзе за публікацыю ў "Нашай Ніве" артыкула "Дума і народ" на два месяцы быў пазбаўлены волі.

Не гледзячы на шматлікія палітычныя перамены, ён застаўся ў Вільні. І ў свой час, калі на заходніх абшарах Беларусі стала ўсталявалася польская ўлада Аляксандр Уласаў працягвае працаваць на Беларусь і змагаецца за беларускасць. У гэты час ён абіраецца беларускім сенатарам польскага сейму, уваходзіць у беларускі пасольскі клуб, мае непасрэднае дачыненне да стварэння Беларускай сялянска-рабочай Грамады, самай масавай арганізацыі на абшарах Заходняй Беларусі ў дваццатыя гады. Акрамя гэтага прымае актыўны ўдзел у працы Таварыства Беларускае школы і іншых культурна асветніцкіх арганізацый. У гэтага чалавека шырокае кола дзейнасці, асабліва цікавяць яго аграрныя пытанні ("Аб гаспадарцы на хутарах і шнурах". 1909г.) Ён і аўтар успамінаў "Дні жыцця". Сваім жыццём, сваёй дзейнасцю Аляксандр Уласаў апраўдаў тое энцыклапедычнае вызначэнне цалкам: беларускі грамадскі дзеяч, выдавец, публіцыст, мемуарыст. Ён, як нарадзіўся, так і памёр беларусам.

***Язэп Палубятка.***



# ЮБІЛЕЙ МІТРАПАЛІТА БАПЦ УЛАДЫКІ МІКАЛАЯ

18 ліпеня, у нядзелю парафія БАПЦ св.Кірыла Тураўскага ў Таронта, Канадзе, святочна адзначыла 45-я ўгодкі святарства й 30-я ўгодкі япіскапскага сану Дастойнага Мітрапаліта, Першаерарха БАПЦ Уладыкі Мікалая.

Урачыстасці пачаліся зраніцы ў царкве Багаслужбай. Пасля гімну "Магутны Божа" вернікі перайшлі ў залю БР-ГЦ, дзе адбылася святочная застольная бяседа пад кіраўніцтвам старшыні Парафіяльнай рады Аляксандра Бушкевіча.

Вітала Яго Праасвяшчэнства Праасвяшчэньнейшага Мітрапаліта Першаерарха БАПЦ Уладыку Мікалая з юбіілеем ад імя Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады старшыня яго др.Раіса Жук-Грышкевіч:

"Вітаем Вас, Дастойны Уладыка, з 45-мі ўгодкамі Вашай ахвярнай душпастырскай службы Богу, Бацькаўшчыне-Беларусі, Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве. Жадаем Вам добрага здароўя, фізічнай і духовай сілы прадаўжаць на многія яшчэ годы так істотную для нас, для Беларусі Вашую душпастіырскую дзейнасць.

Дарагія Суродзічы! 45 год таму, вясной 1954 году, наш Уладыка, тады Міхась Мацукевіч, паспяхова закончыў студыі ў Духоўнай праваслаўнай Семінарыі ў Вініпегу і там-жа быў высвечаны ў святары. Вось жа гэты, надзвычай важны ў жыцці святара, юбілей сёння мы свята з вамі адзначаем.

45-ці гадовая душпастырская дзейнасць Уладыкі Мікалая была заўсёды цесна звязана з беларускім нацыянальным грамадзкім жыццём у Канадзе.

Як мы ведаем, з заснаваннем ў 1948 г. Згуртавання Беларусаў Канады, у Канадзе пачалося беларускае нацыянальнае арганізацыйнае жыццё.

Мэты і шляхі яго былі вызначаны нацыянальнай элітай нашай групы, а дакладней Вінцэнтам Жук-Грышкевічам, гэтак:

1. Нам патрэбная моцная нацыянальная арганізацыя, верная ідэалам 25 сакавіка, Ураду і Радзе БНР.
2. Беларуская нацыянальная арганізацыя павінна мець, як маральную апору сваю Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву.
3. Нацыянальная арганізацыя мусіць мець матэрыяльную базу. Трэба мець свой для грамадскага карыстання, беларускі дом, сваю Крэдытовую суполку.

Маючы акрэсленую мэту дзеяння, мы, сябры ЗБК, крок за крокам імкнуліся нашыя мэты рэалізаваць. Кіраўніцтва ЗБК занялося справай куплі беларускага дому, што было складаным, бо ніхто з нас не меў ані грошай, ані нават свайго кутка. Ды таксама нам трэба было знайсці беларускага святара, які падпарадкоўваўся бы юрыдыкцыі БАПЦ. Такога блізка ня было.

Адзін пасярод нас малады сябра, Міхась Мацукевіч, ідучы за нутраным голасам-пасланствам вырашыў пасвяціць сваё жыццё службе Богу і Бацькаўшчыне-Беларусі. На гэта патрэбная была яму не толькі духовая, але і тэалагічная падрыхтоўка. Таму ён накіраваўся ў Вініпег у Духоўную, украінскую дарэчы, семінарыю, якую ў травені 1954 году паспяхова закончыў, і там-жа быў высвечаны ў святарскі сан.

У Таронта тым часам пад канец лета 1954 году ЗБК купіла першы беларускі дом у Канадзе, што на вуліцы Дандас 1000. Старшынём ЗБК быў тады св. пам.маг. Алесь Грыцук, сакратаром – св.пам.Мікола Ганько. З двух найпрыгажэйшых пакояў дому пабудавалі мы першую ў Канадзе капліцу БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага. Як помнік св.пам.Мечыславу Рачыцкаму, дзейнаму сябру ЗБК, дагэтуль у нашай царкве знаходзяцца, па мастацку зробленыя ім, Царскія дзверы Іканастас.

Першая Богаслужба ў БАПЦ ў Таронта, якую ўрачыста адправіў айцец Міхал Мацукевіч, адбылася 2-га кастрычніка, 1954 году. Псаломшчыкам і кіраўнікам хору быў св. пам.Пётра Слаўко, бацька Ніны Чорнае, а ейная матка св.пам.сп-ня Слаўко была галоўнай пеўчай, бо ведала царкоўныя напевы. А 20-га лістапада гэтага ж 1954 года адбылося ўрачыстае асвячэньне Беларускага Дому ў Таронта Яго Праасвяшчэнства Архіепіскапам БАПЦ Уладыкам Васілём з Нью Ёрку ў прысутнасці вялікай колькасці суродзічаў з Канады й ЗША, чуць не ўвесь Клівэленд прыехаў.

І так, не гледзячы на цяжкасці і маральны выт, якім быў раскол ЗБК у 1952 годзе, Згуртаванне Беларусаў Канады ўжо ў 1954 г. здабыло сабе матарыяльную і рэлігійную базу. Мела сваю беларускую царкву, свайго святара, свой дом, а з 1953 году, сваю касу Самапомачы, мела сваю газету "Беларускі Эмігрант", які збіраў беларусаў Канады пад крыллі ЗБК, ды прыходу БАПЦ.

Праз 5 год сялібай ЗБК быў дом на Дандас 1000. У 1959 годзе ЗБК гэты дом прадае і грошы з прадажы ўкладае ў куплю Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага цэнтру на 524 Ст.Клярэнс Аве. у Таронце. Будынак гэты быў набыты ў канцы жніўня 1959 года, а 21 і 22 лістапада, пасля рамонтаў, уладжання капліцы-царквы, адбылося ўрачыстае яго асвячэнне з удзелам Яго Праасвячэнства Архіепіскапа БАПЦ Уладыкі Васіля з Нью Ёрку.

Дык у жніўні споўніцца 40 год БР-ГЦ на 524 Ст. Клярэнс Аве. У Таронта. Але ж, каб купіць дом у Таронта, патрэбныя грошы. Іх трэба было сабраць з грамадства. Гэтай справай ужо даўно займалася Гал.Управа ЗБК і газета "Беларускі Эмігрант", ды наш а.Міхал, сёняшні Уладыка Мікалай, энергічна і ахвярна аддаецца справе здабывання фондаў на фінансаванне царквы ды БР-ГЦ. Ён ездзіць па ўсіх бліжэйшых і далёкіх асяродках, дзе толькі жывуць беларусы, расказвае ім пра куплю беларускага дому, у якім пабудавана царква і просіць аб ахвяры, і беларусы адгукаліся пазытыўна. Наогул трэба прызнаць, нашае беларускае грамадства ахвярнае, таму мы маглі дружна шмат што і асягнуць.

Агульна прынята, што святара ўтрымоўвае парафія. Але наш айцец Міхал у нядзелі і святы служыць у царкве, а на працягу тыдня працуе на фабрыцы, каб зарабіць на сваё ўтрыманне. І гэтак працаваў ён на фабрыцы праз пятнаццаць год аж да часу, калі ў 1969, стаўся епіскапам. Тады грамадства сказала, што епіскап не можа працаваць на фабрыцы.

Уладыка Мікалай, калісь айцец Міхал, быў заўсёды цесна звязаны з усім беларускім нацыянальным жыццём у Канадзе. Недзе перад 1970 годам Уладыка Васіль стараецца аб новага беларускага епіскапа. Не дарма-ж ён, назіраючы за душпастырскай і беларускай дзенасцю айца Міхала, звярнуўся якраз да яго з прапановай, ці не згадзіўся бы ён узяць на сябе такі цяжар, такую адказнасьць, як епіскапскі сан. Айцец Міхал пэўне-ж мусіў добра заглянуць у глыбіню свае душы, каб даць адказ. Відавочна тут была Божая Воля. Ісус Хрыстос як сваіх апосталаў, пасылаў айца Міхала і казаў яму: "Вазьмі свой крыж і ідзі за мною" І айцец Міхал узяў свой крыж, як бы цяжкім ён не быў, пайшоў і ідзе ўсцяж за Ісусам Хрыстом.

Пра сваю дзейнасць, як епіскапа а пасля Першаерарха БАПЦ найляпей расказаў бы нам сам Уладыка. Што мы ведаем, гэта тое, што ён ўвёў у багаслужбы у нашай царкве ў Таронта беларускую мову. На гэта патрэбныя былі яму беларускія пераклады праваслаўных багаслужбаў, і ён над імі цэлымі гадамі працаваў і дзякуючы перадусім яму цяпер БАПЦ іх мае і можа імі карыстацца.

І сёння мы, дарагі Уладыка Міклай, хочам выказаць нашую глыбокую да Вас пашану і ўдзячнасьць за Вашую ахвярную працу, накіраваную для нашага духовага дабра і здароўя, для нашага духовага – рэлігійнага й нацыянальнага жыцьця і сёння мы молім Усявышняга, каб захаваў нам Уладыку Мікалая ў добрым здароў'і, працаздольнасьці яшчэ на многія годы.

Жыве Уладыка Мікалай! Жыве Беларкусь!"

Аляксандр Бушкевіч прачытаў прывітанне Уладыку Мікалаю ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы. Віталі Уладыку Кастусь Акула, Барыс Кірка і іншыя сябры. Пяялі мы яму "Многія лета". Сакратар Парафіяльнай рады Надзся Дробіна і Алесь Кот уручалі Яму падарункі. На праграму Ўрачыстасці складаліся і вакальныя нумары. Ірына Мартусевіч, студэнтка палітычных навукаў Ёркскага універсітэта, мілагучным галаском выканала пад гітару тры песні: "Белавежская пушча", "Беларусь" і сэрца кранальнае:

Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні, —  
На чужое неба ўжо гляджу сягоння.  
Але думкай, сэрцам толькі вас я знаю,  
Як і жыў, жыву я ў сваім родным краю.

На канец прамаўляў Уладыка Мікалай. Ён запавядаў нам, што ў кожнай працы трэба быць чэсным і усё, што робім, рабіць з любоўю.

Гімнам "Магутны Божа" закончылі мы святкаванне юбілею Уладыкі Мікалая.

***Раіса Жук-Грышкевіч***



## ЧАЧЭРСКАЯ РАТУША

Унікальная помнік архітэктуры – пяцікупальная ратуша ХУІІІ стагоддзя доўгія гады ўпрыгожвае гарадскую плошчу Чачэрска. Зараз такіх драўляных збудававнняў ў Беларусі няма. Узведзена ратуша ў канцы ХУІІІ ст. Цяпер яна патрабуе рэстаўрацыі, і тут працуюць спецыялісты гомельскага прадпрыемства "Будаўнік".

На здымках:

1.Ратуша ў Чачэрску.

2. Будаўнікі-аздабляльнікі Віктар Трацціннікаў, брыгадзір Андрэй Валавікоў, Сяргей Журкоў і Аляксандр Перакладаў.

Фота Сяргея Халадзіліна, БЕЛТА. -0—НГ/ЯЧ

# Добры дзень, паважаная рэдакцыя “Нашага слова”!

Добра што на Беларусі існуе “Наша слова”, якое нясе людзям прыгажосць роднай мовы і памнажае любоў да яе, не дае забыць нам, беларусам, “хто мы і адкуль” і за гэта вам вялікі дзякуй!

Пішу вам, каб падзяліцца сваімі думкамі пра падзеі, і пры чым трагічныя для кожнага сапраўднага беларуса, якія адбываюцца зараз у нашай краіне і грамадстве.

Гісторыя нашай Беларускай зямлі багатая на імёны і падзеі. Немагчыма яе ўявіць без Францішка Скарыны, які нам вядомы, як першадрукар не толькі беларусаў, але і ўсіх усходніх славян; без Міколы Гусоўскага, які ў сваёй паэме “Песня пра зубра” праславіў на ўсю Еўропу Беларусь і яе мужны і свабодалюбівы народ; без Льва Сапегі, стваральніка Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года, які нават лічыцца першай беларускай канстытуцыяй; без бітвы пад Дуброўнай (Грунвальдам) 15 ліпеня 1410 г. найбуйнейшай бітве Сярэднявечча, у якой аб’яднанае войска ВКЛ і Польскага каралеўства разбіла крыжакоў царкоўна-рыцарскага Тэўтонскага ордэна; без славутай Аршанскай бітвы, 8 верасня 1514 г. у якой беларускае войска ўшчэнт разбіла амаль утрая большае войска Маскоўшчыны.

І гэта толькі некалькі славутых старонак нашага мінулага. Так, была вялікая дзяржава, быў вялікі народ, з сваёй нацыянальнай ідэяй, з сваёй нацыянальнай рэлігіяй, — вуніяцтвам, якое ў спалучэнні з нацыянальна— культурнымі традыцыямі і беларускай мовай – стала своеасаблівым сімвалам адзінства і згуртавання беларускага народа, з сваёй, і па-свойму вялікай мовай, — мовай, — якую любілі і шанавалі, мовай, якая ў Вялікім княстве Літоўскім выконвала функцыю дзяржаўнай, на ёй выпрацоўваліся заканадаўчыя кодэксы і акты, мова, якая гучала і ў сялянскіх хатах,. і на вуліцах гарадоў, і ў замкавых і земскіх судах, у гарадскіх маністратах і магдэбургіях, каралеўскіх канцылярыях.

Але час мяняецца, і ў новых гістарычных умовах сярэдзіны XYII ст., з прычыны узмацнення польскай экспансіі (вынік Люблінскай вуніі падпісанай 1 ліпеня 1569 г. паміж Польскім каралеўствам і ВКЛ) і пераймання чужой мовы беларускай шляхты ў сітуацыі двухмоўя беларуская мова прыходзіць у заняпад. І урэшце пастановай Сойму 1696г. статус дзяржаўнай мовы на тэрыторыі Княства быў замацаваны за польскай мовай. Калі проста казаць пачалося “апалячванне” і “акаталічванне” беларускага народа.

Пад канец XYIII ст. Рэч Паспалітая прыйшла ў глыбокі палітычны крызіс. Спроба правесці ў краіне рэформы прывялі да падзелаў яе межаў паміж Расейскай імперыі, Прусіяй і Аўстрыяй. У выніку гэтых падзелаў беларускія землі апынуліся пад уладай Расеі.

Зноў пачалася паланізацыя беларускага народа, толькі ўжо “русіфікацыя” і “аправаслаўненне”. Першы ўдар быў зроблен расейцамі па рэлігіі. Вуніяцты ў адрозненні ад беларусаў праваслаўных і каталікаў былі найбольш устойлівыя да паланізацыі. Расейцы пачалі схіляць у праваслаў’е самых высокіх кіраўнікоў вуніяцкай рэлігіі. І не памыліліся. У лютым 1839 г., тыя падпісалі акт аб уз’яднанні беларускай вуніяцкай царквы з расейскай праваслаўнай. Наступны ўдар быў нанесены па беларускай мове – царскі ўрад забараніў беларускаму народу карыстацца роднай мовай. (нават забаранялася ўжываць такія словы як Беларусь, беларус, беларускі).

Пад час паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі ў 1794 г. ; расейска-французскай вайны 1812г.; паўстання 1863-1864г.г. пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, утварэння ў 1918 г. БНР былі зроблены спробы аднавіць беларускую дзяржаўнасць, адрадзіць беларускую мову і вуніяцкую рэлігію. Але ніводная з іх поспеху не прынесла. У 1918 годзе, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, беларуская інтэлігенцыя паспрабавала аднавіць незалежнасць Беларусі. 9 сакавіка 1918 г. была ўтворана Беларуская Народная Рэспубліка. Праіснавала яна толькі некалькі месяцаў, таму што стала на шляху бальшавіцкай ідэі “сусветнай рэвалюцыі”. У 20-я гады на Беларусі пачалася так званая палітыка беларусізацыі (палітыка па садзейнічанню нацыянальна-культарнага будаўніцтва). Але і яна супярэчыла поглядам камуністаў і асабліва Сталіну, у выніку чаго была гвалтоўна спынена. У 30-я гады, пачаліся сталінскія рэпрэсіі, лагеры, турмы, потым у 1939 г. другая Сусветная вайна, а пасля зноў – рэпрэсіі, турмы, лагера.

У 1991 г. мы, беларусы, усё ж такі дамагліся аднаўлення сваёй дзяржаўнасці. Атрымалі незалежнасць аб якой так марылі нашы прапрадзеды і дзяды. Беларусы сцярпеўшы польскі, царскі, нямецкі, савецкі прыгнёт, прайшоўшы праз расейска-французскую вайну, царскія астрогі, першую і другую Сусветную вайну, праз бальшавісцкія лагеры і турмы безумоўна заслужылі сваю незалежнасць і надзею на лепшае будучае. У гэтыя годы пачалося паступовае адраджэнне беларускай культуры, нацыянальнае ўваскрэшанне. Пачала абуджацца гістарычная памяць беларускага народа. Але прышоўшая ў 1994 г. новая ўлада, зноў адкінула ў бок усё нацыянальнае. Пачалі зноў як пры польскай, царскай, бальшавіцкай уладзе зачыняць і так не шматлікія беларускамоўныя школы і класы, пачалося навязванне расейскай мовы (не першае ў нашай гісторыі) ў выніку закону аб дзяржаўных мовах Рэспублікі Беларусі (расейская і беларуская мовы па сапраўднаму дзяржаўныя і роўныя толькі на паперы, беларуская мова лічыцца дзяржаўнай толькі на ёй.). Русіфікуюцца ўсе сферы жыцця (не ўжо русіфікаваны), сродкі масавай інфармацыі. Паглядзеўшы “наша Беларускае тэлебачанне” і паслухаўшы “наша Беларускае радыё” не разумееш, ці гэта расейцы смяюцца з нашай мовы, ці мы смяёмся з расейскай. Забаронены нашы старажытныя нацыянальныя сімвалы бел-чырвона-белы сцяг і герб “Пагоня”, пад якімі загінула шмат сыноў Беларусі пад Грунвальдам (ды не толькі тут) ратуючы Усходнюю Еўропу ад крыжацкай навалы, расейцы (тады іх называлі маскалямі) адмовіліся нам дапамагчы ў гэтай бітве, а ў бітве пад Воршай мы ратавалі пад гэтымі сімваламі ад маскалёў сваю незалежнасць. І перамаглі. Усё гэта ўжо забыта? Імі, чыноўнікамі і саноўнікамі, душапрадаўцамі і здраднікамі можа і забыта. А намі, беларусамі ніколі!

Няўжо мы беларусы і наша мова не мае права на існаванне, на роўнае месца сярод іншых народаў і моў. Няўжо Беларусь не можа быць самастойнай. Беларусь даўшая свету такіх майстроў слова як М.Багдановіч, Я.Купала, Я.Колас, У.Караткевіч, В.Быкаў. беларуская зямля нарадзіла шэраг выдатных дзеячаў, якія праславіліся далёка за яе межамі. Гэта Казімір Семяновіч. Вынаходнік шматступеневай ракеты, і Якуб Наркевіч –Ёдка, адкрывальнік радыё, і Леў Арцішовіч, выдатны вучоны ў галіне кіравання тэрмаядарнага сінтэзу, і Аляксандр Чыжэўскі, заснавальнік геліялогіі, і Барыс Кіт, выдатны фізік, матэматык і хімік і многія іншыя. І што пасля гэтага Беларусь, беларусы і беларуская мова не мае права на існаванне? Канешне мае! Мае займаць роўнае месца сярод іншых краін, народаў і моў. Мае! Нашы продкі даказалі гэта свету, і нам, ім нашчадксць, засталося даказаць гэта самім сабе і паверыць у гэта.

Мне здаецца адзінае, што зараз можа аб’яднаць, згуртаваць і ўваскрасіць вялікі беларускі народ, гэта свая нацыянальная ідэя, нацыянальная рэлігія-вуніяцтва і беларуская мова.

“Кажуць мова мая аджывае
Век свой: ці ж ёй знікнуць пара.
Для мяне ж яна вечна жывая,
Як раса, як сляза, як зара...”

Жыве Беларусь! І будзе жыць Беларусь.

***З павагай да Вас Андрэй М. (Ворша).***

# Вынікі перарэгістрацыі арганізацый і суполак Т Б М імя Францішка Скарыны

| №№ п/п | Назва арганізацыі | Кіраўнік арганізацыі | Тэлефоны | Паштовы адрас | Дата перарэг-цыі | Колькасць суполак | Колькасць сяброў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **3. Гарадзенская вобласць** | | | | | | |
| 1. | Гарадзенская абласная арганізацыя | Місцюкевіч Аляксандр Іванавіч | х.31-53-78 | 230005, г. Горадня, вул. Дзяржынскага, 123-74 | 27.06.99 | 76 | 911 |
| 2. | Гарадзенская гарадская арганізацыя | Пяткевіч Аляксей Міхайлавіч | с.47-09-64 х.33-67-58 | 230009, г.Горадня, вул.М.Горкага, 78 - 13 | 14.05.99 | 10 | 317 |
| 3. | Гарадзенская раённая арганізацыя | Буднік Іван Хведаравіч | с. 45-33-56 | 230029, г. Гародня, вул.Горкага, 51, раённы аддзел адукацыі 12 | 14.05.99 | 12 | 165 |
| 4. | Ваўкавыская раённая арганізацыя | Галаскок Іван Міхайлавіч | 2-76-89 | 231900, г. Ваўкавыск, вул.Савецкая, 34 | 27.06.99 | 4 (1) | 25 |
| 5. | Ваўкавыская суполка “Усход 29” | Кавальчук Мікалай Міх-віч | 2-67-97 | 231900, г.Ваўкавыск, вул.Заатэхнічная 7-6 | 27.06.99 | (1) | (?) |
| 6. | Дзятлаўская раённая арганізацыя | Грышан Мікалай Паўлавіч | 21-0-29 | 231460, г.п. Дзятлава, вул. Леніна, 29 | 14.05.99 | 5 | 87 |
| 7. | Карэліцкая суполка | Чачотка Андрэй Ал-дравіч скарб. Біба Мікола | скарб. тэл. (01596) 2-21-93 | 231430, Карэліцкі р-н, в.Тарасавічы, д.2 | 27.06.99 | 1 | 18 |
| 8. | Лідская раённая арганізацыя | Анацка Лявон Яўгенавіч | 5-33-42 | 231300, г. Ліда, вул. Багратыёна, 6-108 | 14.05.99 | 38 | 225 |
| 9. | Лідская гарадская арганізацыя | Суднік Станіслаў Вацл-віч | 2-77-56 | 331300, г. Ліда, вул. Зарэчная, 5-17 | 14.05.99 | 23 | 191 |
| 10. | Мастоўская суполка | Сабасцян Аляксей | (01515) 2-11-15 | 231600, г. Масты, вул.К.Цэткін, 9-16 | 27.06.99 | 1 | 12 |
| 11. | Наваградская суполка “Узвышша” | Гнябко Фаіна Канстанцін-на | 2-07-28 | 231400, г.Наваградак, А.Міцкевіча, 38-12 | 27.06.99 | 1 | 8 |
| 12. | Смаргонская раённая арганізацыя | Дзеркачова Любоў Рыгор-на | 5-14-98 | 231000, г.Смаргонь, вул.Юбілейная, 9-20 | 27.06.99 | 3 | 10 |
| 13. | Слонімская суполка | Трафімчук Таццяна Уладзіміраўна | с.1-18-56 х.4-22-14 | 231800, г.Слонім, вул.Брэсцкая, 103-1-61 | 14.05.99 | 1 | 14 |
| | **4. Гомельская вобласць** | | | | | | |
| 1. | Жлобінская гарадская арганізацыя | Сідарэнка Валеры | с.5-45-47 | 247200, Гомельская вобл., г.Жлобін, мікрараён-19, д.3 кв.75 | 14.05.99 | 3 | 9 |
| 2. | Жыткавіцкая раённая арганізацыя | Нікановіч Васіль Васільевіч | с.2-16-32 х.2-22-01 | 247 960, Жыткавічы, вул.Паўднёвая, 14-11 | 14.05.99 | 4 | 82 |
| 3. | Мазырская гарадская арганізацыя | Піскун Людміла Аляксееўна | х.2-33-53 | 247710, г.Калінкавічы, вул.Гагарына, 54-1 | 14.05.99 | 3 | 45 |
| 4. | Светлагорская раённая арганізацыя | Болбас Вадзім Іванавіч | (02342)х.20-2-04 | 247400, Светлагорск, мікрараён-2, д.13,кв.2 | 14.05.99 | 5 | 28 |
| | **5. Магілёўская вобласць** | | | | | | |
| 1. | Магілёўская абласная арганізацыя | Булавацкі Міхаіл Пятровіч | (0222) х.22-70-51 | 212030, г.Магілёў, вул.Ленінская, 33 - 317 | 27.06.99 | 26 | 319 |
| 2. | Магілёўская гарадская арганізацыя | Клімуць Яраслаў Іванавіч | х.42-44-40 с.22-10-39 с.22-88-57 | 212038, г.Магілёў, пр-т Дзімітрава, 54 - 153 | 14.05.99 | 15 | 224 |
| 3. | Асіповіцкая раённая арганізацыя | Барэль Таццяна Уладзім - на | х.6-20-30 с.23-7-76 | 213760, г.Асіповічы, вул.Вакзальная, 38-4 | 14.05.99 | 5 | 24 |
| 4. | Бабруйская суполка | Маліноўскі Віктар Леан-віч | х.4-18-51 | 213822, г.Бабруйск, вул.М.Лынькова, 43-4 | 14.05.99 | 1 | 17 |
| 5. | Горацкая раённая арганізацыя | Кротава Святлапна Сярг-на | (02233) 2-34-87 | 213410, г.Горкі, зав.Шмідта, 8, п.2 | 14.05.99 | 3 | 41 |
| 6. | Касцюковіцкая суполка | Леўчанка Людміла Пятроўна | (02245) 2-31-57 | 213640, г.Касцюковічы, вул.Ленінская, 123-62 | 14.05.99 | 1 | 3 |
| 7. | Шклоўская суполка | Грудзіна Аляксандр Пятровіч | 32-0-34 | 213010, г.Шклоў вул.К.Маркса, 35-5 | 27.06.99 | 1 | 10 |





# Нацыянальны клопат

Пасля з'яўлення ў друку артыкула Юліі Лагашовай "Человек владеет языком или язык человеком?" (Вечерний Брест) за 7 лютага 1999г.) я звярнулася да рэдактара газеты з прапановаю ўзяць інтэрвію і ў мяне. Бо згаданыя падзеі, пададзеныя ў артыкуле тэндэнцыйна, мне і маім калегам бачацца паіншаму. Тая самая журналістка акрэсліла кола пытанняў, на якія я адказала пісьмова, каб забяспечыць належную меру дакладнасці і выверанасці ўласнае пазіцыі. Але, на жаль, падрыхтаваны матэрыял з-за няпэўных прычынаў не быў прыняты да друку. А паколькі, лічу, тут сышліся два радыкальна процілеглыя падыходы да справы беларушчыны, спадзяюся, публікацыя прыдасца "Нашаму слову".

**Юлія Лагашова:** ***"Почему, на Ваш взгляд, потерпела крах кампания всеобщей белорусизации (образования и т.д.) 1991 – 1993 годов?"***

-- Не пагаджуся, што меў месца "крах кампании всеобщей белорусизации". На пачатку 90-х гадоў у суверэннай Рэспубліцы Беларусь разгортвалася дзяржаўнае будаўніцтва і беларускамоўная адукацыя была неад'емным звяном гэтага працэсу. Гвалтоўнае звужэнне функцыяў беларускае мовы ў грамадстве пасля ганебнага рэферэндуму 1995 году, адмена праграмаў нацыянальнае адукацыі на беларускай мове сведчыць пра разбуральныя ўнутрыдзяржаўныя працэсы, а не пра "няўдалую кампанію беларусізацыі". Але я не схільная адкідаць слова кампанія, бо яно ці не найлепей пасуе да падзеяў, што адбываліся ў Берасці летам 1988 года, калі мы – краеўцы, сябрынінцы (ад 1986 году ў горадзе працавала першае беларускае нефармальнае згуртаванне – сябрына "Край") – збіраліся немалою кампаніяю і летнімі пагоднымі адвячоркамі хадзілі па кватэрах будучых першакласнікаў, пераконваючы бацькоў напісаць заявы ў беларускія класы. Колькі было гаворкі-гаманы пра мову, беларусаў, Беларусь! Нас падтрымалі службоўцы, настаўнікі, вайскоўцы, рабочыя. І галоўнага тады дамагліся – беларускі клас быў адкрыты вераснем 1988 года ў сярэдняй школе № 26. Пуміцца, як і ў кожнай новай справе, хапіла тады валакіты, спрэчак з чыноўнікамі. Заявы, сабраныя ў раёне Партызанскага праспекту і мікрараёне "Усход", перакідваліся загадчыцаю Маскоўскага раяна Жыліч Л.І. з аднае школы ў другую – у выніку частка людзей адсеялася. Але гэта не нагода, каб у прэсе праз 11 гадоў з'явілася такое: "Особой активностью, по словам Лидии Ивановны, отличалась одна из преподавательниц филфака пединститута. Принесли списки учеников и 16 заявлений, но когда дело дошло до открытия класса, выяснилось, что большая часть "желающих" – "мёртвые души". ("Вечерний Брест" за 7 лютага 1999 г.) Махлярства з нашага боку не было! Гэта могуць засведчыць былыя студэнты з беларускага і рускага аддзяленняў філфака, берасцейскія пісьменнікі ды мастакі, мае калегі і каляжанкі з розных факультэтаў былога педагагічнага інстытута, а таксама былога будаўнічага інстытута – усе, хто сапраўды праяўляў "особую активность". Ды каб не драматызаваць даўно мінулыя падзеі, відаць, можна скаламбурыць: наша сябрынінская кампанія добра правяла агітацыйную кампанію і па ініцыятыве знізу падштурхнула гарадскі аддзел адукацыі сфармаваць беларускамоўны клас за год да прыняцця Закону пра дзяржаўнасць беларускай мовы і за 2 гады да ўтварэння суверэннае Рэспублікі Беларусь.

Сёлета гэты першы беларускі клас урачыста адсвяткаваў свой выпускны баль. Усё на ім было беларускае: і віншавальныя словы першай настаўніцы Гарадніковай Вольгі Іосіфаўны ды выхавацелькі групы падоўжанага дня Чарановіч Ніны Мікалаены, і бацькоўскія зычэнні, і апякунскія вітанні – ад Таварыства Беларускае Мовы, ад Беларускага Народнага Фронту, ад фондаў Тадэвуша Касцюшкі і Льва Сапегі. Было каму паклапаціцца пра беларускія падарункі – модны ў маладзёвым асяродку лазерны дыск-альбом "Слухай сваё", футболкі з нацыянальнай сімволікай ды, вядома ж, беларускія кнігі. На вечарыне гучалі таксама толькі беларускія спевы і музыка – дзеля нашых выпускнікоў спецыяльна прыехаў беларускамоўны менскі гурт "Камэлот". Падчас свята мы яшчэ раз пераканаліся, якія дасціпныя і разумныя нашы дзеці, якія яны кампанейскія, як хораша іх з'ядналі два магічныя словы : беларускі клас.

Ёсць і будуць у першага беларускага класа пераемнікі; яны і ў 26-й школе, і ў 9-й, і ў 19-й. Але, на жаль, гэта адзінкавыя класы, што засталіся ад 470 (па статыстыцы 1995 году). Па рэспубліцы і ў нашым горадзе перасталі набіраць першакласнікаў у беларускія класы, спасылаючыся на быццам бы нежаданне бацькоў. Прычына ж таму іншая – у Рэспубліцы Беларусь не праводзіцца дзяржаўная нацыянальная палітыка, беларуская мова ігнаруецца як дзяржаўная мова. Берасьцейская Рада Таварыства Беларускае Мовы імя Францішка Скарыны лічыць, што нельга справу пускаць на самацёк. На паседжанні 7 ліпеня 1999 г. была прынятая заява: "Гарадская Рада ТБМ імя Францішка Скарыны звяртаецца ў гарадскі аддзел народнай адукацыі г. Берасця з напамінкам, што гэтым годам закончылі 9-гадовы тэрмін навучання і здалі выпускныя экзамены вучні беларускіх класаў СШ № 9, 19 ды іншых школаў абласнога цэнтру. Спадзяёмся, што на гэтыя класы будзе звернута ўвага і яны не падпадуць пад раскамплектацыю. Рада ТБМ таксама выказваецца за тое, каб гарадскі аддзел адукацыі вызначыў у кожным мікраёне беларускія школы і афіцыйна праз сродкі масавай інфармацыі паінфармаваў пра гэта грамадскасць Берасця. Паводле папярэдняга апытання сярод бацькоў будучых першакласнікаў такімі школамі могуць стацца 9, 13, 16,19,25,26,35, а таксама 2 і 3 гімназіі".

**Юлія Лагашова:** ***"Считаете ли Вы необходимым снова перевести школы, вузы, делопроизводство на белорусский язык в принудительном порядке? Как Вы относитесь к идее языковой полиции? (витала в воздухе в 1992 году)".***

-- Часткова я адказала ўжо на гэтае пытанне. Варта сёе-тое і дадаць: так, я лічу, што трэба будзе вярнуць усё, што страцілі апошнімі часамі, і зрабіць нашмат больш. У прыватнасці, перавесці на дзяржаўную беларускую мову ўсе без выключэння ВНУ Рэспублікі Беларусь. Гэтую працу ўжо распачало ТБМ – вядзецца збор подпісаў за навучэнне па-беларуску ў сталічным Беларускім дзяржаўным універсітэце. Беларуская адукацыя – справа дзяржаўная, то і абавязковая для ўсіх (без пэўнай долі прымусу, вядома ж, не абыдзецца). Але ўсё неабходна рабіць у межах закону – гэта значыць, праводзіць разумную моўную палітыку. Што да моўнае паліцыі, то гэтым несур'ёзным тэрмінам у 90-я гады сёй-той з нефармалаў паджартоўваў з непрыязнай да Беларушчыны публікі – папросту кажучы, дражніў. Помню нават, што ў адной з тагачасных тэлеперадачаў дзеці беларускага класа расказвалі, як гуляюць паміж сабою ў "моўную паліцыю" – па цукерцы сплочваюць за кожную памылку. Але ні тэрмін, ні гульня не прыжыліся – то і на лепшае; была ў тым празмерная хлёсткасць, непатрэбная рэзкасць.

**Юлія Лагашова:** ***"Верите ли Вы в возможность возрождения белорусского языка в качестве разговорного для большей части населения республики? Если да, то за счёт чего? Какие методы Вы считаете эффективными? – Почему именно сельское население – единственный носитель живого белорусского языка – пытается как можно скорее порвать с ним, стесняясь даже акцента. Вспомните антибелорусские бунты в школах на Ковалевке !??"***

-- Гэтыя пытанні патрабуюць педантычнага тлумачэння. Паколькі анідзе ў свеце размоўная сфера ніякімі законамі не рэгламентуецца і ў яе не мае права ніхто ўмешвацца, то няма праблемы і з беларускаю моваю – хто хоча, няхай гаворыць – як у той прымаўцы: яечню есці Бог нікому не забараняе. Гэтак мусіць быць у сям'і, са знаёмцамі ды сябрамі, з сустрэчнымі на вуліцы. А вось у краме, шпіталі, цырульні, вучэльні трэба службоўцам адказваць на той мове, на якой да іх звяртаюцца. Што да "сельского населения", то яно сёння не адзіны носьбіт жывое беларускае мовы. Зазнаўшы разбуральныя урбаністычныя працэсы нашага стагоддзя, беларускі народ ўсё-такі змог захаваць нацыянальны моўна-інтэлектуальны патэнцыял, дэлегаваўшы яго сваёй нацыянальнай эліце, якая, магчыма, у сучасных незайздросных варунках уяўляецца не вельмі моцнаю ды шматлікаю; але затое яна выяўляе сваю жыццёвасць, бо актыўна ўзбагачаецца моладзеваю патрыятычнаю плыняю, пранікае ва ўсе сферы сучаснага беларускага грамадства. Ёсць нагода весці размову пра сталыя беларускамоўныя асяродкі найперш у сталіцы і ва ўсіх абласных гарадах, а таксама ў Пінску, Баранавічах, Воршы, Лідзе ды іншых мястэчках, а то і вёсках. Праз сведамую беларускую інтэлігенцыю, нягледзячы ні на якія рэферэндумы ды палітычныя інтрыгі, беларуская літаратурная мова цягам апошніх дзесяці гадоў значна ўмацавала свой статус у беларускай дзяржаве. Яна зноў аднавілася як жывая плынь, перастаўшы быць штучнаю аздобаю "савецкае па змесце і нацыянальнае па форме" беларускае культуры. Па сабе ведаю: 15 гадоў таму ў Берасьці па-беларуску гаварыла невялікае выкладчыцка-пісьменніцкае кола. Сёння – гэта ўжо сотні берасьцейцаў і, не перабольшу, тысячы прыхільнікаў беларускага слова, хто пераходзіць на мову, як толькі з ім, нярэдка незнаёмым чалавекам, загаворыць. Такая статыстыка пацвярджаецца вынікамі сацыялагічных апытанняў, якія рэгулярна праводзім са студэнтамі ў нашым горадзе. Я маю права сцвердзіць яшчэ раз (бо ўжо пісала пра тое) – на Беларусі няма і не было ўсенароднага адрачэння ад роднае беларускае мовы; ёсць гвалтоўнае адлучэнне народа ад ягонае мовы. Таму і вясковец наш у горадзе губляецца, трапляючы ў ненатуральныя варункі чужога расейскамоўнага асяродку. Зрэшты, той самы эфект бывае, калі чалавек саромеецца свайго нямоднага адзення ці абутку. Навошта з гэтага рабіць палітыку? І не адсюль, вядома ж, выніклі "антибелорусские бунты" ў Кавалёўцы. Яны, лічу, былі справакаваныя школьнымі чыноўнікамі. Ад больш падрабязных тлумачэнняў устрымаюся. Сучасны ж адукаваны беларус павінен ганарыцца сваёю моваю, адкрыта маніфеставаць яе, вывучаць гісторыю беларускае мовы, каб не мучыцца псеўданавуковымі пытаннямі кшталту гэтых.

**Юлія Лагашова:** ***Как Вы можете прокомментировать такой исторический факт: белорусский язык (использую теорию Ермаловича) был государственным и повсеместным в употреблении на территории Белоруссии лишь тогда, когда назывался "русским", то есть, когда еще не существовало отдельного этнического сознания, а наличествовала лишь особенная государственная принадлежность (ВКЛ) ? – Как в таком случае можно надеяться на то, что белорусский язык станет государственным де-факто, коль до сих пор в истории не имелось никакого прецедента? – Белорусская языковая политика тесно связана с униатскими и католическими тенденциями в нашей стране. Чем Вы можете это объяснить? – Многие (историк С. Самбук, В. Загорульский) связывают идеи белорусского национализма с польскими государственными интересами. Прокомменти|руйте пожалуйста, эту версию."***

-- Мяркую, калі першае пытанне крышку перафразаваць, то атрымаецца ясны адказ: калі беларуская мова ў старажытнай беларускай дзяржаве ВКЛ была дзяржаўная і ўжывалася паўсюдна, у тым ліку і як сродак дыпламатыі паміж ВКЛ і Масквою ды іншымі дзяржавамі-суседзямі, тады яна сапраўды (паводле пэўных пісьмовых крыніцаў) называлася "руская"; але гэтая назва не рабіла і не зрабіла яе, нашу мову, расейскаю. Выснова з гэтага простая: тэрмін "рускі" ў XIII-XVI ст.ст. меў зусім іншы змест, чым сёння. (такое бывае часта: старажытнае ***калена*** "пакаленне" ў сучаснай мове – "сустаў нагі".)

А калі звесткі па беларускай гісторыі браць не толькі ў В.Загарульскага, то будзеш ведаць, чытач, што паводле Закона пра мову і паводле Канстытуцыі беларуская мова ў Рэспубліцы Беларусь дзяржаўная. Гэта ёсць рэальна спраўджаныя надзеі: першы такі "прэцэдэнт" наш народ меў у 1918 годзе за часам Беларускае Народнае Рэспублікі, другі – у нашым сённяшнім рэальным часе. Ад каментараў на "польскую" ды "нацыяналістычную" тэматыку адмоўлюся. Мне тут няма чаго сказаць, лічу за патрэбнае адмежавацца ад палітычных інсінуацыяў. Напрыканцы паінфармую чытача, што каб не гэтае пісьмовае інтэрвію, застаўся б не "рассакрэчаны" адзін "беларускі сакрэт":

**Юлія Лагашова:** ***"Не секрет, что белорусская литература (и языковая культура вообще) значительно проигрывает по сравнению с русской литературой и русским языковым наследием. Школьники не могут не ощущать этой разницы. Исходя из этой проблемы – каким, на Ваш взгляд, должен быть отбор художественных произведений белорусской и русской литературы для школьной программы?"***

-- Мяркую, тут быў разлік, што на гэтае пытанне любы "сведамы беларус" кінецца як бык на чырвонае. Што грашыць – у вострых дыскусіях (о, дзіва!) такіх цяпер далёкіх васьмідзесятых гадоў і мне даводзілася рэагаваць на такое неспакойна. Але часы змяніліся. І я мудра выбачу журналістцы гэты шавіністычны сверб, шчыра жадаючы ўсім, хто жыве на беларускай зямлі, душэўнага прасвятлення дзеля служэння незалежнай Беларусі. Усё павінна адбыцца, як у Багдановічавай "Пагоні": "Маці родная! Маці-Краіна! Не усцішыцца гэтакі боль. Ты прымі, Ты прабач свайго сына, За цябе яму умерці дазволь!"

***Валянціна Мароз.***
***Дактарантка НАН.***
***Кандыдат філалагічных навук. (Берасце, Машэрава 66,54); т.: 20-10-41.***

**АЛЕСЬ ПЕТРАШКЕВІЧ**

# ІНТЭЛІГЕНТЫ

**Драма ў дзвюх дзеях**

**Менск – 1998**

## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ

**ЯНКА І БАЗЫЛЬ**

***Узрост герояў не маладыя і не стары.***
***Месца дзеі ў вялікім горадзе. Час***
***Дзеі – эпоха кірмашовага сацыялізму.***
***У п'есе выкарыстана паэзія Міхася Башлакова і***
***народная творчасць .***

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

*Аднапакаёвая кватэра з сумешчаным санвузлом. Акно – злева, глухая сцяна – справа, насупраць – двое дзявярэй: адны – уваходныя, другія – у санвузел, злева ад іх – праём на кухню, завешаны яркай, але даўно нямытай занавескай. Пакой пусты – у ім толькі круглы стол, адно венскае крэсла, на якім стаіць тэлефон. Невялікі, але новы тэлевізар стаіць пад акном на скрыпцы з металічных прутоў. На покуце каля глухой сцяны на падлозе – сяннік, прыкрыты салдацкай коўдрай. У галавах заместа падушкі – скручаная камуфляжная куртка. На гэтай жа сцяне ў звычайным папяровым пашпарту – каляровы партрэт маладжавага, але занадта суровага і напышлівага мужчыны ў цывільным. На галаве ў яго шапка прыгожых, відаць, наплоеных валасоў, вусоў няма, а барада, як у скандынаўскага шкіпера. Над сталом пад столлю моцны крук. Ад яго звешваецца электрычная лямпачка без абажура. Стол засланы газетамі "Славянскій забор", нібы абрусам. На стале надзвычай багаты пачастунак. Калі нечага і нехапае, то, можа, толькі вустрыц і другой ці трэцяй пляшкі гарэлкі.*

*Заўважым: калі рэжысёр захоча, каб у спектакль жыўцом урывалася бурнае жыццё краю, створанае талентам тэлерадыёкампаніі, тэлевізар можна будзе ўключыць праз дыстанцыйны ўключальнік.*

*Гучна звініць тэлефон. З санвузла паспешліва выходзіць Базыль – адна шчака і паўбарады паголеныя, а астатняе ў мыльнай пене. У чаканні важнага госця і добрым настроі ён адчыняе дзверы. За дзвярыма – нікога, а тэлефон звоніць зноў.*

**БАЗЫЛЬ** *(бярэ трубку)*. У целефона! *(Моршчыцца, злуецца.)* Я знаю, што вы з домаупраўленія. Я знаю, што ў міня за тры месяца не аплочаны камунальныя, а вы, между протчым, прэкрасна знаіця, што я – законапаслушный жылец на этом свеце... Налаўлю зайцоў – пагашу задолжанасць... Я не гарачуся... Спасіба, што напомнілі... Усяго харошага. *(Кладзе трубку, аглядае сервіроўку стала, нешта на ім папраўляе, нешта перастаўляе, потым нешта ўспамінае, ідзе да тэлефона, набірае нумар.)* Ізьвіні, дочанька, но я забыўся, к чаму падсыпаюць эці кнэлі-сунэлі... *(Паўза.)* Хмелі-сунелі? Не віджу бальшой разніцы... но куды падсыпаць і сколькі, не знаю... Ды не шыкую я! Но прыём будзет, как у людзей... Абойдзетца без устрыц, але як кажуць браткі беларусы, ікорка не пашкодзіла бы... А вот гэтага, доня, не нада! Я для друга дзетства паследней рубашкі не пажалею... Абайдуся і без касцюма. Я паміраць яшчэ не сабіраюся. А калі і загнуся па случаю, міня горсавет пахароніць, как заслужанага ўчыцеля... Ну, ладна. Усё! *(Кладзе трубку, ідзе ў санвузел)*.

*Званок у дзверы. Базыль ідзе да тэлефона, здымае трубку. Званок паўтараецца і дзверы адчыняюцца. На парозе – Янка. Ён у цёмна-сінім гарнітуры-тройцы і палескім саламяным капелюшы. Заместа гальштука – эфектная бабачка пры сарочцы са стаячым каўнерыкам з вугалкамі – адвароцікамі. За плячыма – гітара. Плашч праз плячо. Дарэчы, на Базылю напошаны спартыўны касцюм фірмы "ADIDAS" з прахудзінамі на каленях і лакцях.*

**БАЗЫЛЬ** *(радасна)*. Янка!

**ЯНКА** *(прачула)*. Базыль...

*Абдымаюцца. У руках у Янкі кветкі і сумка, а ў руцэ Базыля тэлефонная трубка. Ён не заўважае, што сцягнуў з крэсла аппарат.*

**БАЗЫЛЬ.** Ваня, Ванёк, Янячка!!!

**ЯНКА.** Васіль, Васілёк, Васятка!!! *(Цалуе сябра ў намыленую шчаку, ачомваецца і адпускае яго)*.

*Базыль паспешліва выцірае шчаку і вусы Янкі рукавом свайго "адзідаса", круху губляецца.*

**БАЗЫЛЬ.** Прасьці! Забыў, што недабрыўся... Прасьці, радзі Бога...

**ЯНКА.** Нічога страшнага, не мітусіся. Вазьмі кветкі і падарунак, але спачатку пакладзі трубку на аппарат, а аппарат пастаў на крэсла.

**БАЗЫЛЬ** *(Спахапіўшыся)*. Цьфу ты, ёлупень! *(Пазбаўляецца тэлефоннай трубкі)*. Старэем, братка, старэем. *(Бярэ кветкі.)* Ну зачэм было траціцца. Такая дарагавізна... І я не дзявіца. Такой букет!..

**ЯНКА.** Гэта мой стыль, Васёк! Без кветак у госці не хаджу. А што да "дзявіц", як ты кажаш, то я на іх сэканоміў у карысць дарагога сябра... Пастаў кветкі ў ваду, а тады я табе паднясу падарунак-справаздачу...

*Базыль ставіць кветкі ў банку, якую знаходзіць напокуце.*

... Колькі мы з табой не бачыліся? *(Перадае Базылю сумку)*.

**БАЗЫЛЬ.** *(Заглядае ў сумку.)* Так эта жэ цэлае сабраніе сачыненій?!

**ЯНКА.** Калі не лічыць напісанага ў шуфляду...

**БАЗЫЛЬ.** Маладзец! Гарджусь! Хто мог падумаць, што із цібя, вахлака, што-та путнае выйдет.

*Янка ставіць на стол бутэльку каньяку.*

А вот этава не нада было. *(Вешае сумку з кнігамі на цвік)*.

**ЯНКА.** Гэта таксама мой стыль. А то завалішся да іншага інтэлігента ў госці, а ў яго суха, як у Каракумах.

**БАЗЫЛЬ** *(з гонарам ківае на багаты стол)*. Ешчэ польска не згінэла... і я узял "Выбаровой". *(Ставіць каньяк побач з "Выбаровай)*. Асвайвайся, а я дабрэюсь. *(Ідзе ў санвузел.)* І ізьвіні, канечна...

**ЯНКА.** Ладна! *(З падкавыкай.)* "Добреивайся" без цырымоній. *(Вешае плашч на той цвік, на які Базыль павесіў сумку з кнігамі. Аглядае пакой. Спыняецца каля партрэта, саркастычна хмыкае, вешае пад ім гітару, гучна пытаецца.)* А жонка дзе?..

**БАЗЫЛЬ** *(з санвузла)*. У дочкі. Рэшыла не мешаць нашаму мальчышачніку.

**ЯНКА.** Зразумела. Ты ёй перадай "искренние уверения в моём наивысшем к ней почтении"...

**БАЗЫЛЬ.** Непрыменна. *(Выходзіць з санвузла, выціраецца ручніком не першай свежасці)*. А стол – её забота.

**ЯНКА** *(глядзіць на стол)*. Жывуць жа людзі!..

**БАЗЫЛЬ.** Жывём, Ванёк, еслі не лучша, то і не хужа другіх. А на маі голыя сцены і отсутствіе інтэр'еру не ўдівляйся. Свою четырохкомнатную уступіл дочке, а здесь зацеял еўрарэмонт. Меблішку с бібліотекой перевезу когда евробрыгада ўправіцца.

**ЯНКА.** Я так і падумаў.

**БАЗЫЛЬ.** Мы, как панімаеш, самі раманаў і паэм не сачыняем, но чужыя пачытываем іспраўна, і некоторое мненіе о литпроцесе імеем.

**ЯНКА.** Дужа цікава, што "почитывают" беларускія настаўнікі рускамоўных школ?

**БАЗЫЛЬ** *(абдымае Янку за плечы)*. Ты, Янка, міня на вшивасць не праверяй і, цем более, не падкалывай. Я этава, как ты знаеш, з детства не цярплю.

**ЯНКА** *(адчужана)*. Прашу прабачэння, Васіль Васільевіч. Я сапрапраўды ляпнуў, а мы так даўно не сустракаліся. Прабач.

**БЫЗЫЛЬ.** Не абрашчай уніманія... Ты жа знаеш, как я цібя ўважаю...

**ЯНКА.** Тады нам у самы раз выпіць.

*Абодва смяюцца. Базыль ставіць тэлефон на падлогу, а крэсла прапаноўвае Янку. Сам ідзе ў санвузел, выносіць адтуль бляшаную выварку і ставіць яе замест табурэта, перакуліўшы дном уверх. Прымераўшыся, пераконваецца, што яна нізкаватая для табурэта, бярэ з цвіка сумку з "полным собранием сочинений" Янкі і кладзе сабе пад азадак. Янка ад гэтага аж перасмыкаецца.*

**БАЗЫЛЬ** *(разлівае па чарках "Выбарову")*. Так скока жа эта мы с табой не відзеліся?

**ЯНКА.** Бадай што з пачатку перабудовы.

**БАЗЫЛЬ** *(вельмі зацята)*. Не праізнасі пры мне эта слова! І "адраджэнне", і БНФ не праізнасі!

**ЯНКА.** І "дэмакратыя", і "незалежнасць", і "Пагоня" не "произносить"?

**БАЗЫЛЬ.** І "суверэнітэт" з "нейтралітэтам" – таксама... *(Выпівае сваю чарку)*.

**ЯНКА.** Даруй, землячок, але я грэшным дзелам, думаў, што ты хоць троху паразумнееў з тых часоў, як на "выдатна" за гістфак здаў...

**БАЗЫЛЬ** *(стрымана, але жостка)*. А вот гэтава, Ваня, не нада! Ты ў меня ў гасцях. І мы дзействіцельно даўно не відзелісь. По целевізару до рэферэндума я цібя, канечна, не раз наблюдал, но это не то, цем более, што ты стал такім важным і "вумным". Паабшчаемся непасрэдственна, можэт, і я от цібя ума-разума наберуся, как тот собака блох.

**ЯНКА** *(налівае ў Базылёву чарку, міралюбна)*. Не завадзіся, Базыль. Сапраўды, даўно не бачыліся...

**БАЗЫЛЬ.** Тады бяры румку, трахнем і парадак.

**ЯНКА.** Згодна. *(стукаецца з Базылём.)* І каб наша доля нас не цуралася.

**БАЗЫЛЬ.** Харошый тост.

*Выпіваюць. Янка закурвае. Падае цыгарэту Базылю.*

Спасіба, не наўчылся... Школа, дзеці, дурны прымер. *(Падкрэслена.)* Так што, "не жадаю". *(Доўгая паўза)*. А сам ні строчкі без сігарэты? Ілі балаўство ўсё эта? *(Ляпае рукой па сумцы з кнігамі Янкі)*.

**ЯНКА.** Навошта задзіраешся, Базыль? Сам жа запрасіў... Я не набіваўся ў госці...

**БАЗЫЛЬ.** А мы што, так і будзем разговарываць, как Тарапунька са Штэпсалем? Я на русском, а ты на беларусском...

**ЯНКА.** Няхай цябе гэта не засмучае. Ты, фактычна, размаўляеш па-беларуску, толькі рускімі словамі. І я ўсё разумею без перакладчыка. Як кажуць рускія, акцэнт у цябе "неистребимо белорусский".

**БАЗЫЛЬ** *(заводзіцца)*. Значыт, "разумееш"? Есчо па адной і я скажу цібе пра тое, чэво ты "не разумееш". *(Налівае чаркі)*.

*Стукаюцца, выпіваюць. Янка закусвае.*

Я панімаю, вам "творцам", как гаварыцца, па штату паложана на сваём. Ну, а мы, грэшныя, уж как-нібудзь ізьяснімся з вамі на вяліком і магучэм. *(Закусвае)*.

**ЯНКА.** На трасянцы ты са мной "изъясняешься", браток. На звычайнай "трасянцы", а не "веліком і могучем".

**БАЗЫЛЬ** *(ускоквае з-за стала)*. Вся нацыя разговарываець на "трасянцы". Уся, за малым ісключэніем.

**ЯНКА.** Згодзен! І тым горш для нацыі!... А я, між іншым, мог бы з табой, і з нацыяй таксама "изъясниться" яшчэ на ўкраінскай, польскай і нямецкай мовах, бо спавядаю ісціну, што чалавек столькі разоў чалавек, колькі ён ведаў моў. А мы сёння сваёй, і хоць бы адной чужой, авалодаць лянуемся!

**БАЗЫЛЬ.** Значыт адзін ты ў нас граматный, адзін ты у нас чалавек! А мы все не чалавекі, не людзі? Мы – собакі?! Мы – брэшам?! А вот он, между протчым, о белорусском языке сказал лучше і тачнее всех вашых мудрацоў умесне узятых *(Глядзіць на партрэт.)* Нельзя на беларусском языке выразіць сложную і умную мысль, — сказал Он! Вот у чом дзела!

**ЯНКА** *(глядзіць на партрэт)*. Гэты, вядома, мог сказаць! У гэтага язык не на прывязі.

*Базыль падыходзіць да тэлефона і выцягвае шнур з разеткі.*

Баішся, што пачуе?

**БАЗЫЛЬ.** Беражонага Бог беражэ.

**ЯНКА.** Доўга будзеш жыць... *(Цытуе)*. "Истинная любовь к своей стране немыслима без любви к своему языку. Человек равнодушный к своему языку, — дикарь. *(Глядзіць на партрэт.)* Он вредоносен по самой своей сути потому, что безразличие к языку объясняется полнейшим безразличием к прошлому, настоящему и будущему своего народа". Канстіанцін Паустоўскі. *(Ківае на партрэт.)* Шкада, што ён гэтага не пачуе... І такія, як ты, гэтага яму не перакажуць.

**БАЗЫЛЬ** *(катэгарычна)*. Яво не трогай! Эта святое...

**ЯНКА.** Дык яшчэ ж кананізацыі не было... Каланізацыя "градзёць", а з кананізацыяй "без падвижек".

**БАЗЫЛЬ.** Не было, так будзе! Вот выпівай, закусывай і не лезь на ражон... Не случайна жэ гаварат: какога цібе есчо ржана нада? Паэт, драматург – печатаешся, ставішся і дажа у "шуфляду" пішаш. Здароў, красіў, как дэндзі лонданскі адзет. Твары, выдумывай, пробуй! Васпевай хоць прыроду, хоць народ, хоць державу...

**ЯНКА** *(ківае на партрэт)*. Хоць яго?

**БАЗЫЛЬ.** А пачаму бы і нет? Чэм он вам не ўгадзіл?! Усяму народу ўгадзіл, а "творцам не ўгадзіл...

**ЯНКА.** А што, Базыль, калі і ты, і народ памыліліся?..

**БАЗЫЛЬ.** Народ не памыляецца, а я з народам...

*Янка падымаецца з-за стала, ходзіць па пакоі за плячыма ў Базыля, чытае верш-экспромт.*

ЯНАКА. Ты памыліўся, мой народ, ты памыліўся... Ты думаў, што салодкі плод... Як ён свяціўся... Якая горыч на губах, якая горыч... Як адзінокі шэры птах, таксама хворы... Не ўзмахнуць сівым крылом, не ўзняцца ў неба... Як выстыў дзень, як выстыў дом... Ні крошкі хлеба... Мяце наўкол калючы снег і вецер вые... А ты нясеш свой цяжкі грэх з пятлёй на шыі... Крывёй сцякае твой заход... Слязой умыйся... Ты маліся, мой народ, ты маліся...

**БАЗЫЛЬ.** Эта такая жэ праўда, как і то, што ў міня на стале "ні крошкі хлеба"...

**ЯНКА.** Я не меў на ўвазе твой стол. Вось толькі ўявіць не магу, якія прыёмы дырэктар школы будзе даваць землякам у новым інтэр'еры пасля еўрарамонту апартаментаў. І з якога рога "изобилия" плывуць такія панскія прысмакі, калі людзі мёрзнуць у чэргах, як у блакадным Ленінградзе, стоячы па ліверную каўбасу і аднапрацэнтнае малако!..

**БАЗЫЛЬ.** Не думал я, што лірыкі так лягко могут прэвращчаться ў цыніков.

**ЯНКА.** Неверагоднае не ў тым, што лірыкі становяцца цынікамі, а ў тым, што за трыццаць такіх павучальных гадоў ты не стаў іншым.

**БАЗЫЛЬ.** А я не хацел станавіцца "іншым" Вот не хацел – і ўсё!

**ЯНКА.** Не хацеў ці не змог?

**БАЗЫЛЬ.** Ваня, Янка, Ясік! Я прынімаю цібя как земляка, как друга детства і юнасці, в канцэ канцоў как талантлівава чалавека. І, замець, я не хамлю, не выясняю, у каго ты прэўрацілся. Бог цібе суддзя. Но і ты міня не задзевай. Я тожа імею свае прыорыцеты...

**ЯНКА.** А я наогул не "прэвращчался". Я быў і застаўся палешуком. Палешуком-язычнікам. Нехта католік, нехта ўніят, нехта праваслаўны атэіст. *(Глядзіць на партрэт, становіца ў позу.)* А я – язычнік... Язычнік я... З даўнішніх тых вякоў застаўся на зямлі адзін язычнік... Забылі вы даўно сваіх багоў, мяне вам слухаць будзе непрывычна... Язычнік я... Мае багі са мной, не на іконах пісаныя лікі. *(Ківае на партрэт.)* Вось неба з незвычайнай сінізной, такое неабсяжнае, вялікае... Малюся Небу, Сонцу і Вадзе, малюся Ветру вольнаму і Птахам... О, колькі на Зямлі маёй людзей пайшло за Веру на касцёр і плаху!.. Язычнік я... Малюся я Зямлі, малюся Чалавеку я і Звеpу... А вы якую веру прынялі? Ці вам жывецца добра і без веры?.. Язычнік я ... Адзін на ўсёй Зямлі, апошні я ... Апошні і нявечны... Язычнік я... Мае багі са мной, не на іконах пісаныя лікі... *(Налівае чарку і п'е адзін.)* Да чаго трэба было здрабнець, каб маліцца на чарговага... *(Рашуча падыходзіць да партрэта, пераварочвае яго тварам да сцяны і ... слупянее ад нечаканасці. На адвароце партрэта – у такім жа папяровым пашпарту чорна-белы фотаздымак прыгожай дзяўчыны ў белай сукенцы і ў вянку з белых лілей. Праз вугалок пашпарту – чорная жалобная стужка)*.

**БАЗЫЛЬ.** Яна таксама была язычніцай ...

**ЯНКА** *(дрыготным голасам)*. Калі гэта здарылася?

**БАЗЫЛЬ.** Сядай, Янка...

**ЯНКА.** Чаму ты сказаў, што яна пайшла да дачкі?..

**БАЗЫЛЬ.** Пасля... *(Выходзіць на кухню)*.

*( Працяг у наступным нумары)*.

# Міхась Райчонак(1973 -1999)

## Плач па Беларусі

Плача заліўна неба беларускае. Плача слязьмі палыновымі гора людское бачачы, пакутна яму над намі плыці. У гневе яно, у роспачы, бядой чалавечай прасякнута. Хмары цяжкія нізка сунуцца, сонца яснае засланяючы. Ды не ўскіне ніхто вачэй сваіх стомленых, ды не згледзіць уверсе пошасці, што сонца нашае здзяўбсці збіраецца. То птах чорны, лёкай люцыпарскі, што ўзрос на касцях чалавечых і крыві чалавечай напоены. Таму прагнасць яго бязмежная, хватка смяротная. Спачатку сонцам нашым паласуецца, намі ж пасля наесца. Ніхто ад яго не ўратуецца, грашыма ніхто не адкупіцца, людажэр ён, людажэр жудасны.

Не раз кравіў зямлю нашу гэты птах люцыпарскі, двухгаловы. Не раз бяліў яе касцьмі беларускімі, у той час люду вольнага, духам моцнага. Бойкі былі тады лютыя, ажно зоркі трэсліся спуджана. Толькі прашчуры нашы не збаяліся: выцялі мечам страшылішча. І каб не здрадніцтва радзімы адступнікаў, то неба не плакала б сёння, а з'зяла радасна.

Так шкурнікі ды люцыпары баль свой спраўляюць, намі гандлюючы. Птаха знойку да нас запрашаецца, важыцца пажывіцца тутака душамі нявіннымі. Каб ім і яму было гульбішча раўем аздобленае.

## Чарнобыльская навала

Смуродныя кроплі залівалі зямлю. Дрэвы і травы прагна пілі гэтую атрутную вільгаць, напаленыя дзікім сонцам, стомленыя няўтрымным ветрам. Ім хацелася спачыць і набрацца моцы, але ішоў дождж, які забіваў іх нахабна. І яны бязвольна аддаваліся яму, мкнуліся лістотай да навіслых чорных хмар.

Расліны проста не ведалі, што нясуць з сабой ціхапады празрыста-небных кропелеў. Не ведалі і хутка памiралі знямоканыя палыновай гаркотай.

Не ведалі таго і людзі, ім было дзіўна, што прырода помсліва і пакутліва мяняе аблічча, што пацалункі сонца апякаюць, што пяшчота ліпеньскіх дажджоў здзірае скуру, а абдымкі мяккіх вятроў сціначюць дыханне. Яны нічога не ведалі і не жадалі ведаць, бо ў няведанні спакойней жыць і чакаць чагосьці, што будзе добрага ў свеце, і вінавацілі сваіх уладароў, якіх самі сабе ў пакаранне і выбіралі.

## Святасць Беларусі

Стаяць у Наваградку на замкавай гары два каменныя волаты – дзве вежы. Ні спёка, ні мароз, ні дождж, ні вецер не прыносяць ім вялікай шкоды. Бо яны, загартаваныя ў полымі жудасных аблогаў, набылі такую цвёрдасць, што нават час не ўладны над імі.

Калі ўзыйдзеш на Замкавую гару, з якой адкрываюцца шырокія абсягі, і ў думках агледзіш прасторы Беларусі, то праз сінявую далеч убачыш на беларускай зямлі вялізны крыж, падобны на крыж Ярылы ці Ефрасінні Полацкай.

Бог і людзі паклалі гэты крыж на нашу зямлю ад Бярэсця і да Віцебска, на Беларускай градзе, на шляху перасялення славян: на Дзвіне і Дняпры, на Нёмане і Прыпяці ляжыць гэты сімвал нашай святасці, сімвал Беларусі і яе лёсу. З усходу на захад чырвонай паласой прасціраюцца сляды паходаў чужынцаў. У двух месцах паласу перасякаюць блакітныя стужкі рэк, па якіх плылі да нас госці нашы і ворагі, выязджала святая Ефрасіння.

Бачылі ворагі і зайздроснікі нашы крыж той Божы і не раз спрабавалі яго агнём спапяліць ды мячом высекчы. Але мы той агонь люцыпарскі слязьмі і крывёй сваей патушылі, пад меч цела свае падставілі. Не маглі перамагчы нас нячысцікі, пакуль слова Божае жыло ў душы кожнага. Груганамі накінуліся тады мярзотнікі на душу народную, спрадвекам Богам яму дадзеную. І так спляжалі яе, збэсцілі, што адракліся ад Бога слабейшыя. Узяла тады пошасць нялюдская верх над намі. А каб мы больш не ўзняліся, распялі ліхадзеі нас на нашым крыжы і вырашылі схаваць у бяспамяцтве, брудзе і вечнай крыўдзе.

Але народ жыў, узняцца хацеў, за што яго каты вешалі на плошчах, ці білі ў патыліцу за горадам. Толькі не магчыма было забіць народ, які жыве на сваёй роднай зямлі, бо на тое яна і родная, каб даваць сілу.

Калісьці сказалі два нашы геніі Якуб Колас і Сяргей Палуян словы: Жыве Беларусь і "Хрыстос уваскрос". І праўда, жыве наша матка Беларусь. І мы ўваскросслі. Толькі яшчэ не верым сабе, раны свае мацаем. Нехта моцна спадзяваўся, што агрубее ў беларусаў душа пасля невыносных пакутаў. Не агрубела ў нас душа, як і ў наваградскіх мучанікаў, што глядзяць сваімі вачамі-байніцамі у Сусвет, балюча зраненыя. Але ўсе раны калі-небудзь ды гояцца, інакш спынілася б жыццё на зямлі




## ВІЦЕБСКУ – 1025 ГАДОЎ

На здымку: У час свята горада.

Фота Аляксандра Хітрова, БЕЛТА. –0— ТА/яч

# Давайце спяваць па-беларуску

## Гурт "Камелот"

### Грай , Дудар!

Музыка і словы З.Сідаровіча
(арыгінал у *Cm)*

*Em G*
Сеча, сеча, бой крывавы,
*Em*
А пасьля чакае слава.
*G*
З намі Бог, бо з намі праўда -
*Em*
Грай, дудар, туідл-дам.
Пад харугвай вецер дужы,
Непахісны лад харужы.
Слухай, вораг, песьню бою,
Грай, дудар. туідл-дам.

*D G C*
Хлопцы б'юцца як малойцы,
*G C*
А мне з дудою ў бойцы
*G*
Клопатаў гарою –
*H7 Em*
Цікуй за сьпіну.
*D G*
Каб не прабілі.
*H7 Em*
І так багата
*D G H7 Em*
Яна ў латках.

Паналез да нас чужынец,
Вось дуда цябе і спыніць.
Ды ёй хлопцы дапамогуць.
Грай, дудар, туідл-дам.
Ты спазнаў у сечы рады,
Паспытай цяпер гарматы.
Хай яны дуду заглушаць –
Грай, дудар, туідл-дам!
Толькі да вясёлай бойкі
Будзе тут далёка.
Бачыць мае вока
Ды чуюць вушы,
Як стогнуць душы,
Як адлятаюць...
Я сьпеў мяняю!

Закаваны ў панцыр плечы,
Мазалі гараць пад мечам,
Зьбіты на сядле азадак.
Грай, дудар, туідл-дам.
Там, дзе змога – перамога,
Там, дзе песьня – шанцу многа.
Ды спакой мудрэй за бойку!
Грай, дудар, туідл-дам.

Грай, дудар, туідл-дам,
Грай, дудар, туідл-дам!

### Анёл

Музыка і словы З.Сідаровіча

*D D3 D*
Яна была жыццём мне,
*D D6 D*
Я кахаў.
*D D6 D*
Бог так упадабаў яе,
*D D6 D*
Што забраў.

Але ж ён забыўся што
Узяў мае жыццё.
І таму адсюль пайшоў
Я за ёй.

Там, дзе адвечны ёсьць дзень,
Разам зь ёй
Сталі сутнасьцю цяпер
Мы адной.
І мы цяпер — анёл.

### Змагар Адась

Музыка З.Сідаровіча,А.Кішкіна;
Словы З.Сідаровіча

*A D A*
У лесе жыў, хто ўсіх змагаў,
*E A*
На імя – Змагар Адась.
*D A*
Пабачыць нейк пажадаў
*E A*
Яго Вялікі Князь,
І вось пад брызгат ланцугоў
На роў спусьцілі мост,
І ваяводу да лясоў
Ад замку конь панёс.

А ў лесе нашым –
Будзь здароў! –
Ня гэтман гаспадар.
Як гай, ўзьнік тузін малайцоў
І павялі ў гушчар
І галава ўжо з плеч!
Выдатны кожны тут стралок,
І востры кожны меч".

Лі-лі-лі-лу-ла-га!
Лі-лі-лі-лу-ла-га!
Лі-лі-лі-лу-ла-га!

Зьлякаўся гэтман як карась
Ды толькі прашаптаў:
"Табе зьявіцца ў замак Князь
Сягоньня загадаў".
У адказ на словы гэтыя
Раздаўся гучны сьмех:
"Багатыроў рабую я,
Тады й князёў ня грэх!"
"Ну што, хлапцы, ўжо трэба нам
Угору рэй узьняць,
Ды ў замак рушыць, ну а там
Багата рабаваць!
Ты, ваявода, едзь назад,
Тады праз пэўны час
Зьбярэм вясёлы мы атрад.
Скажы - рыхтуйся князь!"

Лі-лі-лі-лу-ла-га!
Лі-лі-лі-лу-ла-га!
Лі-лі-лі-лу-ла-га!

### Тры жалуды

Музыка З.Сідаровіча, І.Войніча.
Словы З.Сідаровіча

*Dm*
Тры жалуды на цабэрак
*C Dm*
Будзе смак не бядак.
Доўгі цэбараў шэраг
*Gm A7*
Я абыходжу вось так.
*Dm Am*
Горкім будзе пітво, будзе пітво.
*Dm Am*
Будзе пітво, будзе пітво.

Хай паказыча нам горла
Каралеўскі напой
Хай павядзе, што ня ўмёрла
Наша справа з табой,
Весялей, браце мой,
Гэй, браце мой.

Сёньня жыццё аздабляе
Жолуд горкі як дым.
Ды ўжо напой, як стрываем,
Зробім на мёдзе адным!
Толькі
Дзе гэты мёд,
Дзе гэты мёд?

Покуль вандруе па жылах
Нестамлёная кроў,
Покуль старое па сілах
Жыцьме цэх вінароў!
Жыцьме
Сіла вякоў, сіла вякоў.

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 23. 08. 99 г.
Наклад 3700 асобнікаў. Замова № 2232.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 40 000 руб., 3 мес.- 120 000 руб.
*Кошт у розніцу:* 10 000 руб.